ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Год выдання 39-ы
№ 62 (2523)
ПЯТНІЦА
4
снежня 1970 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 5 кап.

## У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:





«Таню пахвалілі...» Гэты здымак А. і М. Ананьіных зроблены вядомымі фотамастакамі ў дні ўборкі ўраджаю на Палессі.

Нарыс пра творчасць А. і М. Ананьіных чытайце на стар. 10—11.



Янка Брыль сярод чытачоў у Камянцы. Фота В. ГЕРМАНА (БЕЛТА).

# НА ГАСЦІННАЙ ЗЯМЛІ БРЭСТЧЫНЫ

*З 25 ПА 30 ЛІСТАПАДА У БРЭСЦКАЙ ВОБЛАСЦІ ПРАХОДЗІЛІ ДНІ ЛІТАРАТУРЫ, ПРЫСВЕЧАНЫЯ XXIV З'ЕЗДУ КПСС*

## ВЯЛІКАЕ ДЗЯКУЙ!

Гэта было наша апошняе выступленне на Брэстчыне, гэта было развітанне з ёю — гасціннай, шчырай, добразычлівай. Ў школе-інтэрнаце саўгаса «Малеч» дзяўчынкі ў святочных нацыянальных сукенках падносяць Янку Брылю, кіраўніку групы пісьменнікаў, што прыехалі на сустрэчу з чытачамі, хлеб-соль. Вечар пачынаецца на гадзіну раней, чым меркавалася,— паспяшаліся запоўніць залу школьнікі, настаўнікі, рабочыя саўгаса. І вось ад імя прысутных пісьменнікаў вітае настаўніца Ніна Паўлаўна Гапановіч. Пасля слова бярэ Пётр Лявонавіч Лебедзеў — першы сакратар Бярозаўскага райкома партыі, і ўскладае «кіраўніцтва» літаратурным вечарам на Уладзіміра Калесніка...

У гэты дзень мы адолелі за сотню кіламетраў: з гасціннага Кобрына завіталі ў Бярозу. Сустрэліся з членамі мясцовага літаратурнага аб'яднання, наведалі Бярозаўскую ДРЭС, выступілі перад жыхарамі Белазерска ў клубе энергетыкаў. Стомы не адчувалася, яна прыйшла пазней, апоўначы, калі пакрысе ачахала ўзрушэнне, аціхала хваляванне.

Чытаючы сціслыя кароткія запісы ў дзённіку, думаеш, якая багатая наша зямля і якая яна ўраджайная на бясцэнны скарб свой — людзей. Наведаўшы калгас «Беларусь» у Камянецкім раёне, мы не маглі не зазірнуць да іх суседзяў — жывёлаводаў калгаса «Новы шлях», каб падзівіцца на малочна-таварную ферму, спраектаваную, як кажуць, па апошнім слове тэхнікі.

У Брэсце на заводзе электравымяральных прыбораў на нашых вачах маладзенькі аператар, учарашні школьнік, уключыў машыну, і тая, пазмоўніцку міргаючы сваімі рознакаляровымі вачыма-лямпачкамі, з хуткасцю незвычайнай «адстукала» нам прывітанне. Вітала гасцей таксама мантажніца Рая Осіпава, дырэктар завода Уладзімір Сальнікаў, віталі іх і самі рабочыя, слухаючы выступленні Івана Грамовіча, Сяргея Грахоўскага, Уладзіміра Калесніка, Язэпа Семяжона, Янкі Брыля.

Што асабліва хочацца падкрэсліць, перабіраючы ў памяці ўражанні ад сустрэч на дарогах Брэстчыны? Прыгадваю словы, што сказаў жартам старшыня калгаса «Новы шлях» Віктар Трахімавіч Рахлей:

— У нас шмат мясцін, дзе яшчэ не ступала нага пісьменніка... Гэта сапраўды так. Безумоўна, у кожнага літаратара ёсць асабліва блізкія і дарагія яго сэрцу мясціны. Часцей за ўсё — гэта тыя, дзе ён нарадзіўся, вырас. Што ж да чытача, дык у ім спее ўнутраная патрэба бачыць пісьменніка, творы якога ён любіць, за творчасцю якога ён сочыць, незалежна ад таго, дзе чытач гэты жыве — у горадзе ці ў вёсцы, на поўдні ці на захадзе рэспублікі.

І не толькі дзеля таго, каб атрымаць ад пісьменніка аўтограф. Прыгадваю: да аднаго з нас пасля агульнагарадскога літаратурнага вечара ў Кобрыне падышоў немалады ўжо чалавек і ціха сказаў, не стрымліваючы хвалявання: «А я Вас такім і ўяўляў. Дзякуй Вам!..»

Вялікую ўвагу і клопаты Дням літаратуры на Брэстчыне аддалі кіраўнікі партыйных і савецкіх органаў, мясцовы друк, радыё і тэлебачанне. Увесь час нас суправаджаў у паездцы па вобласці рэдактар абласной газеты «Заря» Васіль Каленчыц. У Днях літаратуры прынялі ўдзел таксама літаратары, што пражываюць на Брэстчыне. У Брэсцкім інжынерна-будаўнічым інстытуце, апрача гасцей з Мінска, чыталі свае вершы Міхась Рудкоўскі і Іван Арабейка, у Камянцы да групы далучыўся Алесь Разанаў, а ў Белазерску надзвычай цёпла сустрэлі прысутныя выступленне Ніны Мацяш.

Ёсць нешта сімвалічнае ў тым, што Дні літаратуры ў рэспубліцы, прысвечаныя XXIV з'езду КПСС, пачаліся менавіта на гераічнай Брэсцкай зямлі. За яе гасціннасць, за незабыўныя сустрэчы мы сёння кажам ёй: «Вялікае дзякуй!»

**Анатоль ГРАЧАНІКАЎ.**

## ПЯЦЬ ДЗЁН ЖАДАНЫХ СУСТРЭЧ

Пяць дзён сярод добрых і дарагіх людзей...

Пяць дзён шчырых сустрэч, жаданых дарог, якія вялі да рабочых і калгаснікаў, настаўнікаў, студэнтаў, вучняў—чытачоў удзячных, зацікаўленых, патрабавальных. І таму зближэнне з імі заўсёды хвалявала, хацелася вынесці на іх суд самае спелае і новае, дарагое і значнае.

Я вяртаюся на дарогі, якія для нашай групы (Сцяпан Александровіч, Алег Лойка, Уладзімір Паўлаў) пачалі разбягацца з Баранавіч. Першая з іх прывяла на Баранавіцкі баваўняны камбінат. Я і дагэтуль бачу бясконцы ткацкі цэх, які нагадаў мне прытуманеную летнюю раніцу над поймай Бярозы. А вечарам нас ветліва сустракалі баранавічане, кнігі, пытанні, кветкі ў гарадскім Доме культуры.

З душэўным хваляваннем ступілі мы на Крошынскую зямлю — радзіму Паўлюка Багрыма. Думаючы пра гаротнае жыццё паэта, я параўноўваў яго з жаўруком, якому звязалі зламаныя крылы.

Цёпла прайшла літаратурная сустрэча ў Крошыне — цэнтры калгаса «Перамога».

Памятныя мясціны прывялі нас і ў вёску Сталавічы (там адбылося выступленне ў сярэдняй школе), куды ў свой час прыязджаў на кірмаш Адам Міцкевіч, каб пахадзіць сярод мясцовых людзей, прыслухацца да пявучага народнага слова.

Не маглі мы абмінуць і ваколіцы Калдычава. Балюча было хадзіць па разбураных сутарэннях турмы, дзе фашысты жорстка катавалі нявольнікаў.

Бачачы ўсё гэта, думалася, што памяць вайны не часовая. Яна выхоўвае і будзе выхоўваць пакаленні на прыкладах мужнасці і адданасці Радзіме.

Пульсуючая артэрыя Брэсцкай шашы выштурхнула нас ў харошы гарадок Івацэвічы. Заглянулі мы і ў гарадскі пасёлак Целяханы — «Незабыўны куток Беларусі». Целяханцы бралі нас у жаданы палон. Доўга «адскрыпліваліся» мы пёрамі, даючы чытачам аўтографы. А ў Ганцавічах (гавару ў добрым сэнсе) ад чытачоў не было адбою. Нам давялося прыкласці свае рукі і да твораў Пілліпа Пестрака, Івана Шамякіна, Сяргея Грахоўскага, Івана Мележа, Янкі Брыля (іх не было сярод нас), і да зборніка «Мары жыцця», і асабліва да новай кнігі-даведніка «Пісьменнікі Савецкай Беларусі».

Можа так супала, але наш маршрут праходзіў (маю на ўвазе назвы калгасаў) па новых і светлых шляхах, якія вядуць да перамогі: «Новы шлях», «Светлы шлях», «Перамога»...

Назвы светлыя, прамяністыя, як доля сялянская. І пра яе нельга не напісаць.

Па задуменных тварах сяброў я адчуваў, што сэрцы Сцяпана Александровіча, Алега Лойкі, Уладзіміра Паўлава не змогуць не адгукнуцца радкамі аб усім тым, што яны ўбачылі. Гэта заўважалася, калі мы знаёміліся з багатай гаспадаркай калгаса «Новы шлях» Ляхавіцкага раёна, калі стаялі на Кургане славы за Ганцавічамі, калі хадзілі незабыўнымі сцежкамі ў ваколіцах вёскі Люсіна, дзе ўсё напамінае пра Якуба Коласа...

Выезд у раёны Брэсцкай вобласці я хачу параўнаць з разведкай, з вызначэннем маршрутаў, што вядуць да людскіх сэрцаў, да заслужаных і паважаных працаўнікоў.

Засталося, як гэта вядзецца ў нашым краі, нізка пакланіцца багатай зямлі, падзякаваць яе людзям за шчырасць і гасціннасць, сказаць слова ўдзячнасці кіраўнікам раёнаў, дзе нас сустракалі з хлебам і соллю, а праводзілі з песнямі.

Дзякуй за ўсё табе, дарагое Палессе!

Квітней, расці ў вяках, Палессе!
Я чую, просіш: «Напішы,
Што ты жывеш з палескай песняй
І без палескае глушы».

**Юрась СВІРКА.**

## НАС ВЯЛА ДАРОГА...

...Мы ехалі са Століна ў Давыд-Гарадок. Нам расказвалі, што гэтая вось дарога зусім нядаўна пабудавана. Я ў свой час жыў у Давыд-Гарадку і таму добра ведаў, як цяжка было дабірацца туды вясной або восенню, і цяпер не верылася, што можна імчацца з хуткасцю, якую толькі дазваляе магутнасць матора. З Давыд-Гарадка да Альшан было дабірацца цяжэй. Але гэта часова, гаварылі нам, бо калгас заканчвае будаўніцтва дарогі. І тады мне прыйшлі ў галаву радкі:

Мала ці многа дарог на зямлі?
Чым болей, тым болей надзей.
Спачатку дарогу людзі вялі,
А потым дарога вяла людзей.

Так, нас вяла дарога. Ад гарадка да гарадка, ад вёскі да вёскі, ад сустрэчы да сустрэчы, ад сэрца да сэрца. Пад вечар мы, Ніл Гілевіч, Пятрусь Макаль і я, прыехалі ў Пінск. Нас сустрэлі сакратар гаркома Ніна Лаўрэнцеўна Цітова і рэдактар «Полесской правды» Дзмітрый Дудко (ён суправаджаў нас потым на працягу ўсёй паездкі), і літаральна праз паўгадзіны мы пайшлі ў гарадскі Дом культуры на сустрэчу. Літаратурны вечар прайшоў добра, мы былі задаволены. А назаўтра пачаўся наш шасцідзённы рэйс па дарогах Палесся, па абодва бакі ад якіх прасціраліся то разлівы Ясельды і Прыпяці, то тарфяна-балотная роўнядзь палёў... Азарычы — Іванава — Дастоева — Столін — Альшаны — Гарынь — Лунінец — Любань...

Літаратурныя сустрэчы ў раённых дамах культуры і паэтычныя вечары ў калгасах, таварыскія размовы са старшынямі калгасаў, з партыйнымі работнікамі, з прадстаўнікамі раённай і сельскай інтэлігенцыі, у прыватнасці, з настаўнікамі, з работнікамі кнігагандлю.. Была святочная ўзрушанасць, былі радаснае хваляванне і цеплыня, былі добрыя пажаданні. Усё гэта было, але была, што называецца, і дзелавая частка. Старшыні калгасаў Іван Відзяйла (Азарычы), Іван Янкоўскі (Альшаны), Уладзімір Сцепчанка (Любань), Васіль Гурыновіч (Дастоева) расказвалі ў гутарках з намі аб сваіх справах і сваіх клопатах, аб жыцці сённяшняй вёскі, узнімалі надзённыя пытанні. «Шмат якія матэрыяльныя і вытворчыя праблемы мы паспяхова вырашаем,— гаварыў Герой Сацыялістычнай Працы дэпутат Вярхоўнага Савета СССР Уладзімір Афанасьевіч Сцепчанка,— а вось што датычыць духоўнага жыцця, то тут непачаты край. Тут нам усім разам трэба працаваць і працаваць». Аб гэтым жа гаварыў у сваім выступленні на літаратурным вечары і калега У. Сцепчанкі, таксама Герой Сацыялістычнай Працы Іван Дзмітравіч Янкоўскі. А настаўніца Любанскай школы Соф'я Іванаўна Антановіч звярнулася да нас з такімі словамі: «Пішыце праўду. Бо вучні часта гавораць: так бывае толькі ў кнігах. Пішыце так, каб і ў жыцці і ў кнігах было аднолькава».

Мы, натуральна, шмат пабачылі і пачулі. Мы адкрывалі для сябе новае Палессе. Вялікае ўражанне, напрыклад, зрабіла на нас паездка ў Дастоева — прарадзіму Дастаеўскага, а зараз — цэнтральную сядзібу калгаса «Чырвоная Звязда» Іванаўскага раёна. За апошнія пяць год тут пабудавана амаль...50 розных аб'ектаў, сярод іх — майстэрні, магазіны, сталовая, дзіцячы сад, раддом. У Дастоеве ёсць нават гасцініца, нават зубаўрачэбны кабінет, нават «пакой шчасця», дзе рэгіструюцца шлюбы. Запланавана аптэка, будуецца васьмікватэрны дом з усімі выгодамі, будуецца... Ды аб чым толькі не марыць, чаго толькі не пабудуе захоплены сваёй справай вялікі энтузіяст старшыня калгаса Васіль Несцеравіч Гурыновіч!

Шмат увагі аддалі нам у Іванаве рэдактар газеты А. Каўко, прадстаўнік РК КПБ А. Харламаў, а ў Століне—М. Семчанка і рэдактар мясцовай газеты В. Сінько.

Надзвычай цёплая гутарка была ў нас у Лунінцы, у ёй прынялі ўдзел сакратар райкома В. Літвінчук, загадчык аддзела райкома І. Палавой, рэдактар газеты Ф. Хамцэвіч, дырэктар леспрамгаса А. Бабеня. Незабыўнымі былі сустрэчы з настаўнікамі Азарыцкай і Альшанской школ... Словам, нас вяла дарога. І мы пераконваліся, як многа сяброў у нашай літаратуры. І рабілі для сябе вывад, што гэтым сяброўствам трэба яшчэ больш даражыць.

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ.**

насустрач XXIV з'езду КПСС

КАЖУЦЬ у народзе, што добры каваль куе не грудзьмі, а людзьмі. А і сапраўды, яму, кавалю, не трэба адмахваць рук пудовым молатам. Ходзіць ён вакол кавадла, паварочвае абцугамі тую жалезіну, поўную белага агню, ды пастуквае малаточкам: вось тут, вось тут. А ўжо малатабоец б'е па тым месцы з усёй сілы — х-хак, х-хак! Толькі іскры сыплюцца. Вось тут, вось тут... Х-хак, х-хак...

Прыцаніўся каваль спрактыкаваным вокам, падаў знак — гатова. Нясе жалезіну да цэбра, купае ў трох водах, пакуль не сцішыцца агонь. Пасля вымае з той купелі — дзіва-дзівоснае...

Пра ўсё гэта думаецца мне зараз, калі ўспамінаю тую паездку ў Маладзечанскі раён, гутаркі з Уладзімірам Ігнатавічам Быкоўскім, тамашнім першым райкомаўскім сакратаром.

Гэта зараз мне здаецца, што я разумею гэтага чалавека, яго месца ў жыцці, а тады, пры першай сустрэчы ў кабінеце, калі паміж намі стаяў сакратарскі стол, вялікі, масіўны, бы з чыгуну, вельмі паважаны сакратарскі стол, я быў блізкі да роспачы. Перада мной сядзеў чалавек, пра якога я павінен быў напісаць, расказаць праўду і пра якога я нічога не ведаў, акрамя таго, што раёну ў гэтай пяцігодцы тройчы прысуджаліся Пераходныя Чырвоныя сцягі Савета Міністраў СССР і ВЦСПС, ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР. Але ж, калі б дзелавы ўзровень чалавека заўсёды адпавядаў духоўнаму, для характарыстыкі яго дастаткова было б адных лічбаў...

Уладзімір Ігнатавіч спачатку быў у меру халаднаваты і афіцыйны. І гаворка ў нас ніяк не клеілася. Я запісваў у блакнот нейкія лічбы — колькі ў раёне зямельных угоддзяў, колькі калгасаў, колькі саўгасаў, насычанасць жывёлай, і чагосьці, сам не ведаю чаго, чакаў.

Зазваніў тэлефон, Уладзімір Ігнатавіч доўга некага слухаў і раптам гучна засмяяўся. Засмяяўся на дзіва шырока, залівіста, да слёз. І я зразумеў, што ўбачыў другога чалавека.

Кажуць, што вочы — люстэрка душы. Не ведаю... Я сустракаў чэрствых і халодных людзей з ласкавым позіркам, дурняў з разумнымі вачыма. Мне здаецца, чалавека лепш распазнаць па тым, як ён смяецца...

— У кабінеце мы з вамі нічога не выседзім, — сказаў сакратар, —давайце паедзем у «Светлы шлях», там у нас свінарнік новы паставілі, цуд тэхнікі, на газавым ацяпленні.

Па дарозе мы нетаропка гутарым. За акном газіка праплываюць па-восеньскі сцішаныя палеткі, дзе воку ўжо няма на чым затрымацца. Уладзімір Ігнатавіч тлумачыць праз якія гаспадаркі праязджаем. Ён тут старажыл. Яшчэ ў пяцьдзесят пятым, калі Маладзечна было абласным цэнтрам, працаваў загадчыкам аддзела абкома партыі. Пасля скасавання вобласці — першым сакратаром гаркома КПБ, потым, калі арганізаваліся вытворчыя ўпраўленні, партарганізатарам, сакратаром парткома.

— Ва ўсіх іпастасях перабываў, — смяецца Уладзімір Ігнатавіч. І потым сур'ёзна: — Ніколі не працавалася так хораша, так радасна, як цяпер. Ніхто не камандуе, што і як сеяць, калі і як жаць, ніхто не лезе пад руку. Ёсць дзяржаўны план будзь ласкавы, выконвай і ўсё.

— Многія з нас заднім розумам вельмі моцныя, — не магу сцярпець я. — Нябось тады памоўчвалі, і кукурузу сеялі, аж вочы на лоб лезлі, і канюшыну заворвалі да апошняга каліва.

— А мо і не памоўчвалі,—усміхнуўся мой спадарожнік.

— Як той казаў...

Уладзімір Ігнатавіч паціснуў плячыма і пераведў размову на іншае.

*РАСКАЗЫ ПРА КАМУНІСТАЎ*

# ДАРОГА БЕЗ ПРЫВАЛАЎ

**М. ЗАМСКІ.**



Уладзімір Ігнатавіч Быкоўскі.

Дагэтуль не магу дараваць сабе гэтай рэплікі. Калі вяртаўся дадому, у поездзе ўжо разгаварыўся са старшынёй аднаго з маладзечанскіх калгасаў, які ехаў па нейкіх сваіх справах у Мінск. Прозвішча называць не буду, каб не ставіць чалавека ў нязёмкае становішча. Слова за словам, расказаў яму і пра сустрэчы з Быкоўскім.

— Уладзімірам Ігнатавічам? — старшыня, чалавек ужо за пяцьдзесят, з чырвоным, нібы толькі з марозу тварам, крыху памаўчаў і сказаў: — Гэта, каб вы ведалі, чалавечына, дай бог... Любяць яго ў нас. За што?.. Адразу і не скажаш. Справядлівы. І наперад за вярсту бачыць. Ты яму толькі пачнеш, а ён ужо ведае, чым кончыш. І ўсё да дробязей высветліць. І параду дасць, што толькі дзіву даешся, адкуль ён тваю гаспадарку так добра ведае. А вось хлусні не церпіць. Яна яму, што нож востры. Ты лепш павініся, калі што нарабіў, прызнайся. Зразумее. Ну, а калі па справядлівасці робіш, заступіцца перад якім хочаш начальствам.

Вось раскажу вам гісторыю пра аднаго майго суседа, таксама старшыню калгаса. Было гэта даўнавата, яшчэ калі кукурузу прымушалі сеяць, ды не меней 14 працэнтаў ад яравога палетку. Гэта ў сярэднім гектараў 100—150. Звар'яцець можна. А лета, помню, у той год выдалася хало-однае. Для кукурузы, самі ведаеце, холад — смерць. Хоць ты з ёю што хоч рабі, на адным гноі сей, палі з раніцы да вечара, дыхай на кожнае каліўца — усё роўна толькі вылезе з зямлі, а ўжо скукожыцца, пасінее, пажаўцее, быццам ёй і сапраўды страшна на гэтым свеце жыць. Пра ўсё астатняе забыліся, толькі ў галаве кукуруза. А тут з вобласці камісія за камісіяй. Шныраюць па плантацыях, недагляд вышукваюць.

Еду неяк у раён міма суседніх палеткаў і вачам не веру — сноўдае па кукурузным полі трактар і заворвае тую «каралеву». У раёне (нарада нейкая тады склікалася) знайшоў я суседскага старшыню, адвёў убок і на вуха, каб крый божа, ніхто не пачуў, кажу:

— Ты што, звар'яцеў? Кукурузу заворваеш! Ведаеш, чым гэта пахне?

А ён мне са злосцю:

— А ты бачыў, якая там кукуруза? Каліва каліва даганяе. Ужо і падсадку рабілі, усё роўна дрэнь...

Дык і ў мяне ж такая, кажу, карціна, але каб заараць... Не, мне яшчэ жыццё дарагое. Каб хто каманду даў...

— А я, — шэпча сусед, — да Быкоўскага ездзіў. — Усё як ёсць чыста расказаў. Застанемся, кажу, на зіму без кармоў. Уладзімір Ігнатавіч на машыну і да мяне. Аблазіў усю плантацыю, з людзьмі пагаварыў, папытаў, што і як рабілі, каб выратаваць «каралеву», а потым даў каманду — перасявайце лубінам.

Каб гэтым скончылася. Як на той грэх, наскочыла ў калгас кукурузная камісія і напісала на старшыню і на Быкоўскага цэлую петыцыю. Пасля ўжо расказваў мне сусед, як разбіралі яго ў вобласці. Думаў, развітаецца з партбілетам. Ужо было на галасаванне ледзь не паставілі. Але як узаецца Уладзімір Ігнатавіч, ды кулаком па сталé,— я, кажа, старшыні каманду даваў, я і адказваю. І давай шарсціць тую камісію, што па раёне кукурузу правярала. І што не баліць ёй галава за справу, ёй галоўнае, каб у зводцы ўсё добра было. Даваў, даваў, і начальству таму-сяму перапала. Адным словам, старшыню адкрычаў. Пайшоў той з бюро ледзь прытомны. Зайшоў у сталоўку, узяў дзвесце грамаў, сядзіць, бядуе — як там Уладзімір Ігнатавіч. Потым ужо даведаліся — было прыціснулі і Быкоўскага, хацелі яму вымову павесіць, як раптам устае першы сакратар ды кажа:

— Не маем мы права за прынцыповасць, за смеласць спагнанне даваць, яму там на месцы відней.

Прыехаў Уладзімір Ігнатавіч дамоў вясёлы ды бадзёры. Арганізавалі ў раёне сваю камісію. Праверыла яна кукурузу ва ўсіх гаспадарках. Дзе ледзь ліпела, заараді ды лубін пасеялі. Вось тады здагадаліся мы, чаму Быкоўскі на кожным сходзе ўбіваў — назапашвайце лубін, каб у кожнага быў свой НЗ. Як у ваду глядзеў. Парос на тых кукурузных палетках лубін па плечы. Ніколі не было ў нас кармоў столькі.

Мой субяседнік ціхенька засмяяўся:

— Ёсць у нас раён-сусед. Дык у той год там адразу вырашылі скокнуць у рай — кукурузу пасеялі, дзе толькі можна і дзе нельга было. У газетах пра іх пісалі, на нарадах хвалілі, а прыйшла зіма, дык яны да нас з шапкай, дапамажыце, калі ласка. Дапамаглі, я сам тон пяцьдзесят сіласу пазычыў.

...Ад шашы павярнулі направа і паехалі напрасткі праз поле.

— Так бліжэй кіламетраў на пяць будзе, — сказаў Уладзімір Ігнатавіч.

— Толькі ці праедзем, вунь, як развезла, — паківаў галавой шафёр.

— Няма такога бездарожжа, якое б нельга было пераадолець,—засмяяўся сакратар.

Ля свінагадоўчага гарадка стаяла нечая «Волга». Аказался, прыехала будаўнічае і газавае начальства з Мінска і з Маладзечна. Падышлі. Гаворка вялася на высокіх нотах. Прадстаўнік калгаса—высокі зухаваты дзядзька з хітраватым тварам нешта тлумачыў гасцям, а тыя паўтаралі:

— Не зробіце, не падпішам.

Убачыўшы сакратара, дзядзька падбадзёрыўся:

—Паглядзіце, Уладзімір Ігнатавіч, на гэтых фармалістаў. Самі сваімі калгаснымі сіламі пабудавалі такую ферму, а яны нешта чапляюцца, супрацьпажарных шчытоў няма, таго няма, гэтага няма...

— Правільна, Ігнат Іванавіч, чапляюцца, — усміхнуўся Быкоўскі, паляпаўшы дзядзьку па плячы,—з газам не жарты. Каб праз тыдзень усе недаробкі ліквідавалі, сам прыеду праверу.

-- Ды хіба я супраць,—адказаў Ігнат Іванавіч,—калі трэба, дык трэба, самі разумеем.

Усе засмяяліся.

Не буду доўга расказваць пра свінарнік, скажу толькі, што шмат ездзіў я па рэспубліцы, а такога не бачыў. Усё сапраўды па апошнім слове тэхнікі. Транспарцёрам харч падаецца ў кармушкі, транспарцёрам вывозіцца гной. На кармакухні вялізная, пад столь, машына, з нейкімі кнопкамі, рычагамі, штурваламі. Гэта кормагатавальны агрэгат-камбайн, які мые, варыць і таўчэ. Адным словам, казка. Уладзімір Ігнатавіч усё абышоў, усё абмацаў. Заўважыў шчыліны ў варотах, паклікаў Ігната Іванавіча, пасароміў. Маўляў, людзі ля катлоў разагрэюцца, а тут вецер праз шчыліны дзьме, ці доўга захварэць.

— Будзе зроблена, Уладзімір Ігнатавіч, — сказаў той, і я зразумеў, што гэта сапраўды будзе абавязкова зроблена.

Пасля была доўгая размова ў калгаснай канторы. Быкоўскі падрабязна распытваў пажылую жанчыну, намесніцу старшыні (сам старшыня, Герой Сацыялістычнай Працы Калачык лячыўся ў Мінску) пра справы. І чым кормяць кароў, і як з будаўнічымі матэрыяламі, транспартам. І была гэта гутарка двух сталых людзей, якія пабачылі жыццё, якім няма чаго хаваць адзін ад аднаго. І, дальбог, новы чалавек, які б зайшоў на гэтую размову не здагадаўся б, хто тут начальства.

Калі развітваліся, Уладзімір Ігнатавіч як бы незнарок пацікавіўся:

— Дом для настаўнікаў скончылі?

— Хутка будзем засяляць,—адказала жанчына.

— Пра маю просьбу не забыліся?

— Гэта наконт дырэктара клуба і масавіка?

— Эге ж.

— Як можна, Уладзімір Ігнатавіч, дадзім кватэры.

Прыцемкамі ўжо выехалі на Вільнюскую шашу. Праязджалі недзе блізка ля граніцы Смаргонскага раёна, дзе я некалі працаваў. Аказалася, што ў нас шмат агульных знаёмых.

— І дырэктара МТС ведалі?—пацікавіўся я.

— Ведаў.

— Яго ў нас называлі «сто вымоў».

— Чаму?—засмяяўся Быкоўскі.

Я расказаў, што за кожную сельскагаспадарчую кампанію дырэктар абавязкова атрымліваў вымову. Аднойчы сустрэў яго каля райкома. Ідзе пахмуры, вачэй не падымае. «Што здарылася, Пётр Іванавіч? — пытаюся. — «Ды вось, разумееш, іду на бюро і нясу заяву, каб знялі вымову. А не помню, ёсць у мяне зараз вымова ці няма. А калі няма, калі ўжо знялі яе, а я з заявай сунуся, дык першы з'есць мяне. Скажа, такі-сякі, вось як ты да партыйнага спагнання ставішся. Ды ўлепіць страгача».

Уладзімір Ігнатавіч доўга рагоча, пасля вымае хусцінку, выцірае вочы.

— Дзіўныя людзі. Не разумеюць адной рэчы, што тая вымова нібы эстафета перадаецца. Сакратар—дырэктару, дырэктар—інжынеру, той—брыгадзіру. І пайшло, і паехала, Ланцуговая рэакцыя. Усе нервуюцца, усе валідол глытаюць, а людзі ж усе нашы, людзі здароўе кладуць дзеля справы. Не, я прынцыповы праціўнік такой методы... Ды і партыя вучыць нас па-іншаму працаваць, па-ленінску. Ты паспрабуй чалавека зразумець, ты пастаў сябе на яго месца. Ну, вядома, сустракаюцца і прайдзісветы, п'яніцы. Да такіх у мяне жалю няма...

А наогул ёсць у нас аматары пароць гарачку. Ледзь чалавек не справіўся—адразу яго далоў з работы. Аднойчы, гэта даўно было, і мяне на такое падбілі, угаварылі. Быў у нас старшыня калгаса. Так сабе старшыня, зорак з неба не хапаў. А тут раптам яшчэ і ўборку заваліў. Увесь раён падвёў. Вось таварышы і пачалі—вызваліць дый годзе. Маўляў, і замена ёсць добрая—мясцовы аграном. Добра, правялі арцельны сход, паслухаліся хлебаробы, знялі, паставілі агранома. Прайшоў год, а справы ў калгасе яшчэ горш пайшлі. Калегі мае зноў за сваё, маўляў, гэтага трэба знімаць, ёсць добрая кандыдатура на яго месца. Вось тут ужо я на дыбкі. Застаўся чалавек на сваім месцы. І зараз працуе, не горш за іншых...

...І быў яшчэ адзін дзень з Уладзімірам Ігнатавічам.

З раніцы ён сказаў:

— Сёння, мабыць, нікуды паехаць не ўдасца, у час чарговае бюро, ды і так спраў розных набегла, трэба на месцы вырашаць.

На бюро ў гэты дзень прымалі ў партыю і зацвярджалі на пасады. Атмасфера, як заўжды, ў такіх выпадках была ўрачыстая, а тут яшчэ і нейкая хатняя, дзе цябе сустракаюць не афіцыйныя асобы, а старэйшыя таварышы. І, мабыць, адчуваў гэта кожны, каго выклікалі сюды. Бо не было скаванасці, застыласці на тварах.

І было такое ўражанне, што ўсіх іх даўно ведаюць і Быкоўскі, і члены бюро.

— У вас, здаецца, толькі дзесяць класаў?—пытаецца Уладзімір Ігнатавіч у маладой жанчыны, работніцы райаддзела культуры. — Трэба абавязкова вучыцца далей, а то абгоняць.

І, паціскаючы руку, гаворыць па форме традыцыйныя, але ў яго вуснах неяк па-асобаму значныя словы.

— Жадаю вам быць добрай камуністкай.

Заходзіць наступны—высокі чарнявы мужчына.

— Ага, Ваўчынскі, — усміхаецца сакратар,—ну, зараз мы цябе папарым.

— За што, Уладзімір Ігнатавіч?

— За тое, што перапалілі пасевы ў калгасе імя Янкі Купалы.

Ваўчынскі кіруе раённым хіматрадам і, пачырванеўшы, пачынае тлумачыць, як гэта здарылася.

— А чаму дэфіляцыю лубіну так няўдала зрабілі?

Пачынаецца размова аб гербіцыдах, пустазеллі, балотах, якія трэба абавязкова апрацаваць хімікатамі.

— Не, наогул, хлопцы харошыя, стараюцца, -- раптам рэзюмуе Быкоўскі,—трэба толькі дапамагчы ім. Ёсць прапанова прыняць у партыю. Хто за? Аднагалосна.

Дзверы паціху адчыняе невысокая хударлявая жанчына.

— Што ж ты, Эмілія Іванаўна, так нясмела, або знясілела? Як справы?

— Добра, ідзём на дно...

— Што здарылася? Расказвай.

Сакратар устае з-за стала, ідзе насустрач.

Эмілію Іванаўну райком накіраваў галоўным аграномам у калгас «Чырвоны прамень», сёння афіцыйнае зацвярджэнне. І вось на табе. Аграномка скардзіцца і на адно, і на другое. Члены бюро пачынаюць раіцца, чым дапамагчы...

Я гляджу на Уладзіміра Ігнатавіча, які стаіць, увесь падаўшыся наперад, на яго каржакаватую постаць з моцна пасаджанай галавой і думаю, якая багатая наша зямля на цікавых людзей. Дзе выкоўвалася гэтая воля, гэтая мэтанакіраванасць, гэтая душэўнасць і любоў да людзей? Мо заклалася яшчэ тады, калі хлопец з далёкай вёсачкі Аўласкава, што згубілася сярод віцебскіх лясоў, пайшоў партызаніць. А мо тады, калі ў першыя пасляваенныя гады калясіў па разбураных вайной вёсках з пасведчаннем інструктара райкома. А мо пасля, калі стаў адказным партыйным работнікам? А хутчэй прывяла яго да гэтага ўся жыццёвая дарога, дарога без прывалаў, дарога, якую выбраў ён сам.

Пасля бюро ішлі і ішлі ў кабінет Быкоўскага людзі. Прыехаў з Мінска начальнік абласнога аддзела аховы здароўя вырашаць пытанне аб будаўніцтве новай раённай бальніцы. Зайшоў дырэктар банка — у раёне будзе ўкараняцца аўтаматычная сістэма кіравання з разгалінаванай тэлефоннай сеткай, трэба яе фінансаваць. Прыехала з суседняга Вілейскага раёна дзяўчына—са скаргай да Быкоўскага, як да дэпутата Вярхоўнага Савета СССР.

...Вось і падышоў к канцу мой расказ пра Уладзіміра Ігнатавіча Быкоўскага. Сакратара райкома. Чалавека, які лічыць сябе адказным за дзень сённяшні, за дзень заўтрашні.

Маладзечна—Мінск.

*Да 150-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ*

# Ф. ЭНГЕЛЬС І МАСТАЦТВА

ЭНГЕЛЬС быў вучоным-энцыклапедыстам у поўным сэнсе гэтага слова. Маркс, характарызуючы свайго сябра і саратніка, адзначаў, што «ён — сапраўдная энцыклапедыя, працаздольны ў любы час дня і ночы...» Сапраўды, Энгельс аддаваў пастаянную ўвагу не толькі вывучэнню прыродазнаўчых навук, такіх, як хімія, фізіка, біялогія, а таксама лінгвістыкі, літаратуры і мастацтва. Ён быў глыбокім знаўцам мастацкай літаратуры як еўрапейскіх, так і ўсходніх народаў.

Жывую цікавасць Ф. Энгельс праяўляў да розных бакоў жыцця Расіі, да развіцця рускай літаратуры, да творчасці яе выдатных прадстаўнікоў. Ён у арыгінале чытаў Дзяржавіна і Пушкіна, Грыбаедава і Салтыкова-Шчадрына, Дабралюбава і Чарнышэўскага. Яго любімым паэтам быў А. С. Пушкін. З «Яўгенія Анегіна» ён пераклаў 15 строф.

Кола эстэтычных інтарэсаў Ф. Энгельса не абмяжоўвалася мастацкай літаратурай. Ён любіў музыку, асабліва сімфоніі Бетховена. Аддаючы даніну гэтаму выдатнаму кампазітару, ён пісаў аб найвышэйшым росквіце музыкі ў творах Бетховена. Гераічная і Пятая сімфоніі выклікалі асаблівае захапленне Энгельса. Сам Энгельс з вялікай ахвотай іграў, нават спрабаваў свае сілы ў кампазіцыі. Да гэтага варта таксама дадаць, што ён маляваў даволі дасціпныя і трапныя карыкатуры.

Ф. Энгельс вядомы і як перакладчык рэвалюцыйнай лірыкі. Так у Англіі ў снежні 1844 года ў яго перакладзе быў апублікаваны вядомы верш Гейнэ «Песня сілезскіх ткачоў». Адначасова Энгельс выступаў і як перакладчык рэвалюцыйнага англійскага паэта Шэлі. Ён не раз падкрэсліваў, што Шэлі — буйнейшы асветнік рабочага класа Брытаніі, і называў яго «геніяльным прарокам».

Глыбокая, шырокая і пастаянная цікавасць Ф. Энгельса да літаратуры і мастацтва не была выпадковай. Ён пачаў сваю творчую дзейнасць з літаратурных вопытаў. Іменна знаёмства з імі дазваляе лепш зразумець фарміраванне эстэтычных поглядаў Ф. Энгельса, яго адносіны да літаратуры і мастацтва.

Ф. Энгельс даволі рана пачаў пісаць вершы. Гэтыя вершы прысвячаліся героям нямецкага эпасу, якія былі яму блізкія, у іх ён бачыў увасабленне свайго парыву да свабоды. Аднак гэты парыў хутка прыняў больш пэўную палітычную форму, перш за ўсё ў аповесці 1837 года. Яе тэмай Ф. Энгельс выбраў вызваленчы рух грэкаў супраць туркаў.

Пасля пераезду ў ліпені 1838 г. у Брэмен Ф. Энгельс працягвае работу над вершамі і прозай. Захапленне нямецкім гераічным эпасам і народнымі кнігамі дае яму багаты матэрыял для творчасці. У сваіх літаратурных вопытах ён імкнецца ўкласці ў традыцыйныя фальклорныя вобразы якасна новы, актуальны палітычны змест, насычае радкі духам абурэння і пратэсту супраць цемрашальства і філістэрства.

Ф. Энгельс, не абмяжоўваючы літаратурныя заняткі вершаскладаннем, спрабаваў таксама свае сілы ў мастацкай прозе. Яго пісьмы да таварышаў па гімназіі і літаратурным гуртку братам Ф. і В. Грэберам, а таксама да сястры Марыі сведчаць аб тым, што ў гэты перыяд (1838—1839 гады) ён «узмоцнена» працаваў «для адточкі стылю» над «рознымі празаічнымі рэчамі», намерваючыся выдаць іх адзіным цыклам —«Брэменскія вечары». Аднак гэту задуму ажыццявіць не ўдалося.

У сакавіку-красавіку 1839 года ў часопісе «Нямецкі тэлеграф» Ф. Энгельс друкуе два яркія публіцыстычныя артыкулы пад агульнай назвай «Пісьмы з Вуперталя». У іх ён выкрывае духоўную абмежаванасць, рэлігійнае ханжаства і філістэрства, якія былі ўласцівы фабрыкантам і купцам горада Бармена, дзе нарадзіўся Энгельс. З гэтага часу пачынаецца двухгадовае супрацоўніцтва Энгельса з гэтым часопісам, дзе ён выступае пад псеўданімам Ф. Освальда як паэт, літаратурны крытык і публіцыст. Свае вершы і крытычныя артыкулы Энгельс друкуе і ў некаторых іншых перыядычных выданнях.

У 1842 годзе Ф. Энгельс публікуе ў Швейцарыі «Хрысціянскую гераічную паэму» — «Біблii дзівоснае збаўленне ад дзёрзкага замаху...», дзе ў вострай сатырычнай форме выкрываецца рэлігія. Яна была напісана ў сувязі са звальненнем з Бонскага універсітэта аднаго з маладагегельянцаў, з якім Энгельс быў знаёмы, Бруна Баўэра за яго атэістычныя погляды.

У гэтай паэме Фрыдрых Энгельс апісвае пад імем Освальда сябе, а «сынам Трыра» — называе Карла Маркса. Праўда, ён яшчэ не ведаў Маркса асабіста, але яму ўжо былі вядомы яго тэмпераментныя і змястоўныя публіцыстычныя выступленні.

Літаратурна-творчыя шуканні маладога Энгельса, эвалюцыі яго эстэтычных поглядаў і мастацкіх густаў у 1838—1841 гадах знайшлі сваё яркае адлюстраванне ў пісьмах да братоў Грэбераў, з якімі ён дзяліўся сваімі літаратурнымі думкамі і планамі. З перапіскі відаць, што Ф. Энгельс вітаў і прагна ўбіраў у сябе прагрэсіўныя, дэмакратычныя веянні сучаснай яму нямецкай літаратуры.

Патрабаванні Ф. Энгельса да нямецкай літаратуры, да вынікаў мастацкай творчасці, становяцца ўсё больш пэўнымі, строгімі і глыбокімі. Працэс выпрацоўкі паслядоўнага рэвалюцыйна-дэмакратычнага светапогляду, выкліканыя гэтым працэсам змены эстэтычных поглядаў атрымалі сваё адлюстраванне ў пісьмах Ф. Энгельса 1840—1841 гадоў і ў яго літаратурна-крытычных матэрыялах.

У сваіх шматлікіх артыкулах Ф. Энгельс уступае ў смелую і адкрытую барацьбу з нямецкай рэакцыяй і з тымі літаратурнымі з'явамі, якія так або інакш выказвалі яе класавыя інтарэсы. У сакавіку 1840 года ў адной з браўншвейгскіх газет былі надрукаваны два цікавыя артыкулы Ф. Энгельса пад агульнай назвай «Сучаснае літаратурнае жыццё». Перад ад'ездам у Англію ў канцы 1842 года ён напісаў разгорнутую рэцэнзію на кнігу крытыка-маладагерманца А. Юнга «Лекцыі аб сучаснай літаратуры немцаў». У гэтым артыкуле малады Энгельс нібы падводзіць вынік свайму мастацка-эстэтычнаму развіццю ў 1839—1842 гадах.

●

Эстэтычныя погляды Ф. Энгельса грунтуюцца на глыбокім і шырокім веданні сусветнай літаратуры і мастацтва. Аб гэтым сведчаць яго шматлікія выказванні аб творах мастацкай літаратуры і жывапісу, аб творчасці асобных пісьменнікаў, мастакоў, паэтаў, а таксама аб цэлых перыядах гісторыі развіцця літаратуры і мастацтва.

Іменна матэрыялістычнае разуменне гісторыі дазволіла Марксу і Энгельсу навукова рашыць фундаментальную праблему — аб гнасеалагічнай і сацыяльнай прыродзе літаратуры і мастацтва. Яны даказалі і абгрунтавалі, што свядомасць чалавека ва ўсіх яе формах не што іншае як усвядомленае быццё, як адлюстраванне, сапраўднае або фальшывае, умоў матэрыяльнага жыцця грамадства.

Раскрываючы сацыяльную абумоўленасць мастацтва, яго залежнасць ад грамадскага базісу, Маркс і Энгельс у той жа час перасцерагалі ад вульгарна-сацыялагічнага разумення гэтай залежнасці як механічнай адпаведнасці ўзроўню мастацкай культуры грамадства ўзроўню развіцця вытворча-

---

ВОДГУКІ, АДКАЗЫ

## БЫЦЬ ЗАПАВЕДНІКУ!

*Дзяржаўны камітэт Савета Міністраў БССР па ахове прыроды паведамляе, што факты, прыведзеныя ў артыкуле І. Ратнера «Паміж пустак, балот беларускай зямлі», апублікаваным у «Літаратуры і мастацтве» 10 кастрычніка г. г., адпавядаюць сапраўднасці.*

*Пытанні паляпшэння навукова-вытворчай дзейнасці Прыпяцкага запаведніка абмеркаваны на сумесным пасяджэнні калегій Дзяржкамітэта і Міністэрства лясной гаспадаркі БССР з удзелам прадстаўнікоў Беларускага навукова-даследчага інстытута лясной гаспадаркі, Гомельскага універсітэта і Акадэміі навук БССР.*

А. ВАРАНЦОЎ,
старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па ахове прыроды.

## ВІЛІЯ НАПОІЦЬ СВІСЛАЧ

*Так называўся нарыс пра будаўніцтва Вілейска-Мінскай воднай сістэмы, змешчаны ў «Літаратуры і мастацтве» 28 жніўня г. г. У нарысе ішла, між іншым, гаворка аб праблемах і цяжкасцях, з якімі даводзіцца сустракацца будаўнікам сістэмы, аб марудных тэмпах мантажна-будаўнічых работ.*

*Як паведаміў рэдакцыі намеснік міністра меліярацыі і воднай гаспадаркі БССР А. Бяляеў, факты, прыведзеныя ў нарысе, мелі месца.*

*Калегія міністэрства разам з Мінскім гарвыканкомам абмеркавала пытанні, звязаныя з будаўніцтвам Вілейска-Мінскай воднай сістэмы, і звярнулася ў Дзяржплан БССР з просьбай забяспечыць будоўлю неабходнымі матэрыяламі і транспартам.*




Сцяпан ГАЎРУСЁЎ



# БАЦЬКА

## ШЫРОКІЯ СОСНЫ ТРАСЕ

УРЫВАК З ПАЭМЫ «ХАЙ СПЫНІЦЦА Ў НЕБЕ ПЯРО!»

*У пачатку гэтага года я закончыў паэму «Хай спыніцца ў небе пяро!». Яна прысвечана некаторым падзеям Вялікай Айчыннай вайны, а таксама сённяшнім ваенным канфліктам у В'етнаме і на Блізкім Усходзе. Асноўная думка, якую хацелася б данесці да чытача — гэта адказнасць кожнага чалавека перад сваім часам.*

*Прапаную адзін з раздзелаў паэмы чытачам «ЛІМа».*

АЎТАР.

Было яно так, як і ў песнях —
У хлопчыка хата была
З раздольнейшых сцен, а не цесных,
Дзе ўдосталь хапала святла.

Была ў яго добрая маці —
Запомніў ён рукі яе.
І бацька — на людзях ці ў хаце —
Таксама ў вачах паўстае.

Былі ў яго сёстры таксама
І большыя з імі браты.
І гэтак старалася мама,
Каб болей ім даць дабраты.

Малы набіраўся тут сілы,
Дужэў,
Разумнеў пакрысе.
Разгортваў вятрак свае крылы,
І — сонца ішло па страсе.

Хоць хата
Здаўна вуглавата,
За ёю — на кожным суку —
Вясёла спяваў салавейка,
Збіралася дружна сямейка
За новым
Кляновым
Сталом.

І хата была пры шляху.

Напэўна, з самога парога
Паслалася лёгка дарога —
Кужэльным лягла палатном.

Пры дробных ці вырасшых дзецях,
А клопат у матак адзін, —
Як лепш накарміць і адзець іх,
Дачка гэта будзе ці сын.

І колькі на свеце пражыта,
А ў нас, дзе сінеюць лясы,
Бялела паловае жыта,
І ўдаль зелянелі аўсы.

Ільну залатога званочкі
Звінелі пры самай сцяне.—
Няхай жа збіраюцца дочкі
За кросны пры яснай вясне!

А з хлебам — заўсёды дастатак. —
Няхай жа дужэюць сыны!
І будзе бліноў і аладак,
Якія так любяць яны.

Яшчэ не астылі праменні,
А заўтра работа — агонь! —
Няхай пры сваім прыгуменні
Напасвіцца выгадна конь!

Кружыліся ўскруж небасхілы,
Стаялі буслы ў калясе.
Разгортваў вятрак свае крылы,
І сонца ішло па страсе.

Кацілася душнае лета,
І так — на парозе начы —
Ты думала, маці, пра гэта,
На шлях праз акно гледзючы.

А бацька! І дзе яго стома! —
То шулу папpавіць, то кол.
Яшчэ прыглядаўся, вядома,
Да вельмі няўедлівых пчол.

Запаслівы хлопчык таксама
Свісцёлкі свае правяраў.
І блізка была яго мама
З духмянасцю чэрвеньскіх траў.

Не ўсіх і даклічашся сведак,
Ды кожнае ўспомніць сяло,
Што так ці, магчыма, не гэтак,
А толькі надзейна было.

Наўзбоч ля шырокіх падвалін,
Дзе ляжа навек бервяно,
У свеце, дзе дом не запален,
Ішло — упрыбежку — я н о —

Жыццё, дзе не ўсё можа ладна,
Дзе часам гудне авадзень,
Дагледжана ўсё акуратна
На лепшы — на заўтрашні дзень.

Чаму ж вы, зязюлі, не чулі,
Калі было ціха вакол,
Якія страшэнныя кулі
Ляцелі і ў хату, і ў пчол!

Якраз жа і ў саменькі ранак
Над белым тваім палатном,
Разгойдаўшы новенькі ганак,
Ён стаў за высокім акном.

І бацька стаіўся пры шуле,
І дзеці ўразлёт, як шпакі,
І выбілі чорныя кулі
Свісцёлку з дзіцячай рукі.

сці. Яны вучылі, што прамой, механічнай адпаведнасці тут няма і быць не можа. Значыць, у процілегласць механічнаму дэтэрмінізму Маркс і Энгельс уводзяць у сваю эстэтычную тэорыю прынцып дыялектычнага дэтэрмінізму, які ў поўнай меры ўлічвае своеасаблівасць, спецыфіку і адносную самастойнасць развіцця літаратуры і мастацтва.

Разам з тым, К. Маркс і Ф. Энгельс рашуча пярэчылі супраць вульгарнага ўяўлення аб ролі эканамічнага фактара. Толькі канкрэтна-гістарычны аналіз, заснаваны на ўліку ўсіх фактараў, якія вызначаюць дадзеную эпоху, можа растлумачыць своеасаблівасць мастацкага развіцця. Яны далі бліскучыя ўзоры такога аналізу творчасці многіх пісьменнікаў, пры якім цалкам улічваюцца ўсе асаблівасці, уся складанасць гістарычных умоў, якія нарадзілі тую ці іншую літаратурную з'яву.

Важнейшым палажэннем эстэтычнай навукі, створанай Марксам і Энгельсам, з'яўляецца палажэнне аб пазнавальнай і пераўтваральнай сутнасці літаратуры і мастацтва. Мастацтва разглядалася Марксам і Энгельсам як важнейшая крыніца пазнання. Гэта можна прасачыць на прыкладзе працы Ф. Энгельса «Паходжанне сям'і, прыватнай уласнасці і дзяржавы». У гістарычных раздзелах гэтага твора, якія датычаць грэкаў і немцаў, Энгельс у значнай меры абапіраўся на літаратурныя матэрыялы. На аснове вывучэння гамераўскага эпасу ён разглядае стан вытворчых сіл і ўсёй арганізацыі грамадства Грэцыі яе гераічнага перыяду. Энгельс выкарыстоўвае з эпасу Гамера важны матэрыял аб формах сям'і ў тую далёкую эпоху.

К. Маркс і Ф. Энгельс неаднаразова падкрэслівалі грамадскі сэнс творчасці Бальзака як вялікага выкрывальніка буржуазных парадкаў і сацыяльных тыпаў, народжаных гэтымі парадкамі. Яны лічылі, што вялікаму пісьменніку ў трох тысячах асоб сваёй бессмяротнай «Чалавечай камедыі» ўдалося выдатна адлюстраваць драпежніцтва буржуа, тлятворны ўплыў капіталу, хаос і дэградацыю, народжаную адносінамі бессардэчнага чыстагану, крывадушную маску буржуазнай дэмакратыі.

Разглядаючы літаратуру і мастацтва як адну з форм грамадскай свядомасці, Ф. Энгельс ускрывае класавыя карэнні барацьбы паміж рознымі кірункамі ў літаратуры і мастацтве. Ён выступае за ідэйнасць, за жыццёвую праўду ў літаратуры і мастацтве, за рэалізм, які, паводле яго слоў, прадугледжвае, апрача праўдзівасці дэталяў, праўдзівасць тыповых характараў у тыповых абставінах.

Вядомае пісьмо Фрыдрыха Энгельса да М. Гаркнес, у якім даецца гэта класічнае вызначэнне рэалізму, падводзіць у пэўнай меры вынік усёй яго літаратурна-крытычнай дзейнасці.

Глыбокае даследаванне класічных узораў сусветнага мастацтва і парасткаў новага, толькі што народжанага мастацтва пралетарыяту прывяло Маркса і Энгельса да вываду аб класавым характары мастацтва ў класавым грамадстве, аб яго ідэйнасці і тэндэнцыйнасці. Але, падкрэсліваючы грамадскую ролю мастацтва, яны засцерагалі ад голай, дурной тэндэнцыйнасці, ад забыцця рэалізму.

У творах Маркса і Энгельса, у іх артыкулах і выказваннях ёсць выключна багатыя і невычарпальныя па сваім навуковым значэнні думкі і ідэі па важных пытаннях развіцця літаратуры і мастацтва, пытаннях мастацкай творчасці. Навуковыя палажэнні і вывады Маркса і Энгельса маюць вечнае тэарэтычнае і метадалагічнае значэнне для вырашэння актуальных эстэтычных праблем, у барацьбе супраць антынавуковых канцэпцый сучаснай рэакцыйнай буржуазнай эстэтыкі, супраць рэвізіянізму і дагматызму ў галіне тэорыі мастацтва.

К. Маркс і Ф. Энгельс ва ўсе перыяды сваёй дзейнасці ўдзялялі пастаянную ўвагу пытанням эстэтычнай тэорыі і мастацкай практыкі, непарыўна звязваючы іх з гістарычнымі задачамі вызваленчай барацьбы рабочага класа, працоўных мас. Яны пільна сачылі за творчасцю мастакоў, якія выступалі з пазіцый рэвалюцыйнага народа, — Генрыха Гейнэ, Веерта, паэтаў Парыжскай камуны, падтрымлівалі іх творчасць і дапамагалі ім крытычнымі заўвагамі і парадамі. У іх творах, напоўненых рэвалюцыйным зместам, Маркс і Энгельс бачылі парасткі таго новага мастацтва, што нараджалася ў ходзе рэвалюцыйнай барацьбы пралетарыяту і якому належыць будучае.

Ю. ГУСЕЎ,
кандыдат філасофскіх навук.

---

Разбегліся ўпрыцемкі пчолы,
А ё н — пад высокім святлом —
Яшчэ гаваркі і вясёлы, —
Усеўся за новым сталом.

Сцямнелі наўсцяж небасхілы,
Замоўклі буслы ў калясе.
Вятрак прыгарнуў свае крылы,
І — сонца сышло па страсе.

Ён полаг навек тут павесіць
І боты разуе навек.
Не ўбачыць ён чорненькі месяц
Над чорнай люстранасцю рэк.

Бо чорны ён сам чалавек.

Табе будзе чорна і горна,
А светла яму аднаму.
І будзе па-свойму прасторна
У цесным раздоллі яму.

З дарогі не выцершы ногі,
Вось так — басанож — па расе,
Ён пойдзе наўсцяж без дарогі
Па жытах, ільнах і аўсе.

Агледзіць тваё прыгуменне,
Па-свойму пагладзіць каня,
Панюхае — што там у сене! —
Як злодзей між яснага дня.

Саткуць твае добрыя дочкі
Для фраў яго палатно.
Чаму ж вы прымоўклі, званочкі!
Ці, можа, сватоў не чутно!

Сасватае ён, хоць не сёння —
Яму ж не баяцца ахвяр.
І пойдуць у шэрай калоне,
Заплакаўшы ясны свой твар.

Сыны! Ды іх доля вядома —
На тое яны і сыны.
А меншы прыцішыўся дома,
І бацька прысеў ля сцяны.

Ён думае горкую думу,
І бачыць якраз насупроць,
Як г э т ы — без лішняга тлуму —
Каню прымярае аброць.

Хоць сам ён не пойдзе за плугам,
А толькі зашморгне супонь,
След чорны праводзіць ён лугам,
І — нешта натурыцца конь.

Вядома, бо столькі пражыта, —
Няхай жа запомніць і ў сне! —
Не ўбачыць ён н о в а г а жыта
На чорнай сваёй баразне!

Сама ж ты ад гора і скрухі
Глядзіш на цяжкую раллю,
І просяцца стомлена рукі,
Каб легчы ў сырую зямлю.

А хлопчык! — Малы ды відушчы
Ён бачыць адсюль, як і ўсе,
Што бацька ў разгойданай пушчы
Шырокія сосны трасе —

За ўсіх пачарнелых зязюль!
За тое, што толькі галосяць,
Шырока не жнуць і не косяць,
Падушкі дзявочыя росяць
І хлеба пад вокнамі просяць, —
І сын нізашто не папросіць
Вясёлага бацьку а д т у л ь.

А лекаў — набор небагаты:
За тое, што пушчы трасе, —
Спаліць яго новую хату,
А разам і іншыя ўсе.

І пройдзе агонь па страсе,
Па жытах, ільнах і аўсе.
І хлопчык — у полымным дыме —
Рукамі, такімі худымі,
З акна, дзе аскаліцца звер,
Папросіцца к бацьку цяпер.
І з хлопцамі — ох! маладымі! —
Ды спозніцца бацька цяпер.

Ён вынесе сына,
паставіць на крыжы дарог.
Такі ён нявінны —
і птушкі пакрыўдзіць не мог.

Любіў ён смяяцца,
у хованкі доўга гуляць.
Ад тых не схавацца,
хто ходзіць паліць і страляць.

Ужо без слядоў і дарогі
над чорнай імглой небыцця
Прайшлі яго крохкія ногі
па саване чорным жыцця.

А бацька!
Пашле ён бацькоўскія кулі —
Чужыя хай лічаць зязюлі
І —
жыта ў яго баразне.

Наробіць ён чорнага ляда —
На кожнага чорнага гада!

---

ПА ВЫСТАВАЧНЫХ ЗАЛАХ

Васіль БЫКАЎ

# ТАЛЕНТ І ПОШУК

*ПРА МАЛАДЫХ МАСТАКОЎ ГРОДНА*



В. Быкаў (справа) і гродзенскі мастак А. Захараў.
Фота В. КОСЦІНА.

Яшчэ некалькі гадоў назад наладзіць мастацкую выстаўку ў Гродне было не так проста. Гэта патрабавала нямала клопатаў ад грамадскіх і мастацкіх арганізацый вобласці. Выстаўкі звычайна наладжваліся ў сувязі з юбілейнымі і знамянальнымі датамі або з'яўляліся творчай справаздачай майстроў пэндзля, якія шмат папрацавалі ў мастацтве. У гэтых адносінах побач з юбілейнымі варта прыгадаць персанальныя, падагульняючыя выстаўкі работ І. Пушкова, В. Савіцкага, К. Вісловіча, якія, нягледзячы на некаторыя ўласцівыя ім недахопы, засталіся ў памяці гродзенцаў як прыкметныя з'явы ў культурным жыцці вобласці.

І вось нядаўна ў Гродне, у выставачнай зале па вуліцы Э. Ажэшка, адбылася першая маладзёжная мастацкая выстаўка.

Адразу ж трэба агаварыцца, што было б празмерным шукаць у гэтай экспазіцыі шэдэўры, эпахальныя хаця б у абласных маштабах работы. Было паказана толькі лепшае з таго, што на працягу апошняга часу з'явілася ў майстэрнях маладых мастакоў Гродна. І тым не менш прыемна адзначыць, што ўся гэтая невялікая, але ў многіх адносінах сімптаматычная ў культурным жыцці абласнога цэнтра экспазіцыя досыць перакануча засведчыла, што ў складаным і шмат у чым супярэчлівым сучасным выяўленчым мастацтве маладыя вядуць настойлівы калектыўны пошук уласных шляхоў.

Што гэта так, становіцца ясна, калі прыгадаем, напрыклад, работы Л. Налівайка, бадай, найбольш таленавітай. Яна паказала каля дзесятка работ. Усе яны—сведчанне нястомнага пошуку, настойлівага эксперыменту, дыяпазон якога ў дадзеным выпадку досыць шырокі і закранае як галіну тэматыкі, так і галіну тэхнікі, а таксама тую частку выяўленчага мастацтва, якая датычыць пытанняў каларыту, колеру і святла. Л. Налівайка смела і, трэба сказаць, досыць віртуозна працуе маслам, разцом, гуашшу. Як правіла, мастачка імкнецца пранікнуць у самую сутнасць прадметаў і з'яў, пра што сведчаць такія яе работы, як філасофскі-касмаганічная «Зямля» або крыху сюррэалістычная ў сваёй прыхаванай значнасці «Смерць качкі» — гэтая маленькая, трапна падмечаная трагедыя ў жывой прыродзе. Не абмінае мастачка і партрэтны жанр. Створаны ёю партрэт Пятраева, на мой погляд, — лепшы з усіх, якія былі паказаны на выстаўцы. Яркі сучасны дэкор, багацце колеру, светлавая разнастайнасць — моцныя бакі мастакоўскага таленту Л. Налівайка.

Хаця работы Л. Налівайка ў значнай ступені вызначылі аблічча выстаўкі, але, зразумела, не вычарпалі яе зместу. Да ўжо адзначаных твораў набліжаецца мастацкай накіраванасцю сваіх пошукаў М. Навуменкаў — аўтар серыі урбаністычных пейзажаў. Пейзажы М. Навуменкава выкананы ва ўмоўнай, дэкаратыўна-агрубленай манеры. Сама па сабе гэтая манера ні кепская, ні добрая. Яе каштоўнасць, як і любой іншай мастакоўскай манеры, вызначаецца зместам, які праз яе выказаны. На жаль, іменна гэты змест не заўсёды ўдала знойдзены ў палотнах М. Навуменкава. Так, здавалася б, розныя па задуме яго пейзажы—«Роздум» і «Мост». Але ў абодвух выпадках маем толькі часткі амаль аднаго і таго ж, мала чым цікавага маставога збудавання.

У гэтым сэнсе, пакуль што, больш за іншых пашанцавала, мабыць, А. Клімянкову, чыя «Тэлевізійная вежа»—работа, якая, несумненна, набліжаецца да пэўнай паўнаты мастацкага асэнсавання тэмы. Напружаны шэры каларыт, пятрова-водкінская сферычнасць зямной прасторы, тонкія графічныя лініі антэн і расцяжак, парабалічная крывая ў небе—уся гэтая выразная, амаль сімвалічная, прадметнасць карціны лаканічна і дакладна ўвасабляе характар сучаснага тэхнічнага свету. Начыста пазбаўленая знешняй паказной прыгажосці, карціна гэтая тым не менш заключае ў сабе тую «таямніцу», якую цяжка перадаць словамі і без якой не абыходзіцца ні адзін з сапраўдных твораў мастацтва.

Шмат працуюць маладыя гродзенскія мастакі ў такой складанай тэхніцы, як акварэль. Яны ствараюць і яркія маляўнічыя, выкананыя з пэўным настроем, замалёўкі, і грунтоўна, у традыцыйна-рэалістычнай манеры напісаныя лісты. Добрым прафесіяналізмам у гэтым жанры вылучаюцца поўныя мяккага лірызму работы В. Шчарбакова («Партрэт маці», «Вечаровыя купалы»), А. Волкава («Партрэт», «Гарадскі пейзаж»), Г. Мазурава («Стары горад», «Від ад Каложы», «Хмарны дзень»), некалькі лістоў Т. Пільшчыкавай. Прыемна, што гэты цяжкі і не надта папулярны да апошняга часу жанр мае сваіх майстроў і прыхільнікаў сярод мастакоў Гродна.

Радуе таксама несумненны поспех гродзенцаў у авалоданні новымі для нашага горада відамі выяўленчай тэхнікі, такімі, напрыклад, як чаканка па метале. Тут досыць цікава заявілі пра сябе А. Волкаў («Маска», «Негрыцянскі танец»), В. Усцінаў з яго тонкімі, часам ажурнымі і густоўна апрацаванымі металічнымі паверхнямі, В. Даненкаў, чыя манера строгіх, крыху дэкаратыўных ліній робіць яго работы зусім сучасным упрыгожаннем інтэр'ераў грамадскіх будынкаў.

Як і ў папярэднія гады, так і сёння мала на гродзенскіх выстаўках скульптуры. Вось і на маладзёжнай выстаўцы цяжка было што-небудзь вылучыць, апрача хіба што прасякнутага мяккай пластыкай «Жаночага партрэта» В. Пятраева.

Можа быць, спрэчнай, але ў дастатковай меры запамінальнай з'яўляецца кампазіцыя М. Апіока «Людзі, якія хацелі жыць». Па крайняй меры, работа нікога не пакідае раўнадушным. Кампазіцыя М. Апіока, як і палатно Г. Мазурава, «Табе, чалавек»,—можа, не ва ўсіх дэталях выверавыя, але, несумненна, цікавыя спробы ўвасаблення тэм значных, далёка няпростых для выяўленчага вырашэння, хаця і абяцаючых самы вялікі эфект.

М. Апіок і Г. Мазураў закранаюць якраз тую галіну, пранікнуць у якую дадзена толькі немалым талентам.

Шкада, што менавіта такога роду пошукаў небагата ўбачылі мы на памянёнай выстаўцы.

На вялікі жаль, стэнды выстаўкі былі занятыя пераважна традыцыйнымі пейзажамі ў стадыі эцюдаў. Ды і матывы эцюдаў гэтых не вельмі разнастайныя. Пераважна адлюстраванні індустрыяльнага і гарадскога антуражу.

Асабліва трэба звярнуць увагу на тую акалічнасць, што мала было ў паказаных работах чалавечых фігур. Мала твараў, якія запомніліся б. І гэта крыўдна. Бо іменна чалавек, больш чым што-небудзь іншае, спрадвеку з'яўляўся галоўным аб'ектам мастацкага адлюстравання. І толькі нястомныя і паслядоўныя пошукі ў даследаванні чалавечага духу здольныя прывесці мастацтва да значных вынікаў. Ва ўсякім выпадку, больш значных, чым у самых мадэрновых адлюстраваннях бетонных аб'ёмаў, якія даўно ўжо набілі аскоміну.

Але падкрэслім: галоўнае ў дадзеным выпадку не ў тых хібах, якія кідаюцца ў вочы ў работах маладых гродзенскіх мастакоў. Галоўнае, што першая маладзёжная ў Гродне адбылася — зроблена творчая заяўка на будучыню. А заяўка гэтая, несумненна, такая, што дае падставы верыць: у наступныя гады маладыя мастакі Гродна пакажуць работы па вялікім рахунку мастацтва.




ГУСТЫ ТУМАН, нібы дым, клубіўся над вёскай. З нябачнага неба сеялася імжа.

«От ліха, адкуль гэтая морась бярэцца? — падумаў Амельяновіч, ідучы на работу. — Сыпле і сыпле. Хоць бы ўжо марозік ціскануў. Надакучыла гразюка...»

Калі выйшаў за хаты — кузня стаяла трохі воддаль ад вёскі — падалося, што туман пачаў радзець, быў ён ужо не такі густы, не такі белы, а сівенькі, як перагнанае малако. Па небе таропка плылі рудаватыя хмаркі. Неўзабаве выглянула сонца, туман зусім знік. Амельяновіч павесялеў.

Ад кузні ўжо даносіліся тугія звонкія ўдары. «Бач ты, шчыруе памочнік. То спазняўся, а то прыйшоў раней за мяне. Воўк у лесе здохне».

Амельяновіч наддаў кроку і праз хвіліну быў ля кузні.

— А вось і Аляксандравіч, — узрадаваўся мужчына ў прамасленай куртцы, які стаяў ля парогу. — А мы тут без цябе заездзілі твайго памочніка. Час рамантаваць тэхніку. Усе крычаць: «Давай, давай!» То гайкі няма, то сашніка... А чаго выклікалі, Аляксандравіч? — быццам схамянуўшыся, спытаўся Віктар Стасевіч, звеннявы механізаванага звяна. — Мо, званне новае прысвоілі?

— Ды не... Па другому дзелу, — Амельяновіч дастаў пачак папярос, працягнуў Стасевічу, памочніку. Тыя закурылі і запытальна глядзелі на каваля. — Знайшоўся мой ордэн... Прагаварыўся я неяк. Выступаў у школе і ляпнуў, што быў прадстаўлены да ўзнагароды, але трапіў у шпіталь, потым у іншую часць і не палучыў. І што ты думаеш? Яны, падшыванцы, шарах пісьмо ў Маскву. І знайшлася ўзнагарода...

— Ну, дык віншую! Давай лапу! За такое дзела не грэх і па маленькай... — падміргнуў Стасевіч.

— Мусова трэба замачыць, — падаў голас памочнік.

— Не ўручылі ж яшчэ. Мо і не дадуць...

— Як не дадуць? Ты што? — утаропіўся Стасевіч. — Раз ёсць загад, значыць, усё...

— Памылка, браце, выйшла. Прадставілі да ордэна Славы другой ступені. А такі ў мяне ёсць. І трэцяй ступені ёсць. Трэба было прадстаўляць да першай ступені. А тады нешта пераблыталі... Ваенком доўга распытваў, як жыву, як працую, якая сям'я, ці п'ю гарэлку... Ідзі, кажа, Амельяновіч, рабі як рабіў. Слава цябе знойдзе... Ну, я і пайшоў. Так што, браткі, давайце рабіць!

Загудзеў горан. Амельяновіч паварочваў у агні тоўсты жалезны брус. Калі жалязяка стала малінавай, з шызаватым адлівам, каваль выцягнуў яе з агню, паклаў на кавадла.

— Ну-ка, стукні, — кінуў ён памочніку. Памочнік, малады шустры хлопец, замахнуўся — і бялюткія зорачкі пасыпаліся з-пад молата.

Потым Амельяновіч узяўся за молат сам. Працаваў ён лоўка, спрытна, рухі яго былі скупымі і дакладнымі.

Не, ён быў зусім не такі, якім мы звычайна ўяўляем каваля: барадаты волат, сам чорны і барада чорная, адно зубы blішчаць. А тут далікатна пастукваў молатам невысокі шчуплаваты чалавек, з мяккім задуменным поглядам шэрых вачэй і сівымі скронямі.

Калі каваля прасілі падрамантаваць плуг, барану або жатку, ён заўсёды ківаў галавой і гаварыў:

— Добра. Паспрабую...

І ўсё рабіў бездакорна і хутка.

Гудзеў горан. Ляскатаў молат. Сыпаліся іскры. Амельяновіч успамінаў...

ЛІХАЯ ЛЕТНЯЯ ноч. Крумкаюць жабы. Дзесьці ля ракі ў роснай траве раздзіраецца дзяркач. Такая цёплая, ціхая ноч! Сядзець бы зараз на лавачцы, пад кустом бэзу, з каханай...

Амельяновіч поўз, запэцканымі зямлёю пальцамі лапаў вакол сябе. Побач соп старшына Громаў: ён арудаваў цяжкім металічным шчупам. Трохі збоч пасоўваліся Ільчанка і Нігматулін. Камандзір папярэдзіў: тут могуць быць «шпрынгі» — супрацьпяхотныя міны. З імі не пажартуеш: кожная мае тры чэкі, быццам вусы, тырчаць у бакі дроцікі. Тузанеш дроцік — і каюк... «Хочаш жыць, дык усе травінкі перамацаеш», — стаяць увушшу словы камандзіра.

Разведчыкі паўзлі. Раптам нешта цвёрдае і халоднае кальнула ў далонь Амельяновіча. Рука дзерганулася, нібы яе ўдарыла токам. Цела нерухома застыла, напружынілася. Дрыжачыя растапыраныя пальцы мякка, быццам цадзілі паветра, апускаліся на зямлю... Так некалі ў дзяцінстве спрабаваў пагладзіць вожыка — далонь ціха апускалася ў чаканні, што вось-вось кальне іголка.

Зноў халодны дотык. Рука замерла. Чуйныя пальцы слізганулі ўніз і намацалі... лісток. Гэта была зламаная сцяблінка конскага шчаўя. Амельяновіч уткнуў твар у далоні. Каб яго... Так растахкалася сэрца!..

— Амельяновіч, заснуў? — данеслася спераду.

— Паўзу. Зараз...

Неўзабаве пальцы намацалі зноў нешта цвёрдае і халоднае. Гэта быў дрот. Металічныя вусы...

Тры ночы запар поўзалі разведчыкі. Калідор праз міннае поле патрэбен быў дужа шырокі: фронт жыў прадчуваннем наступлення.

І вось яно пачалося. Амельяновіч бег, крычаў «Ура»!, і не чуў свайго голасу. Вось і рака. Вада ў ёй кіпела, як у катле. Дажджом сыпаліся кулі і асколкі. Пад несціханым агнём варожых мінамётаў разведчыкі і саперы ўзводзілі штурмавы мост. Як ішла па мосце пяхота, Амельяновіч не бачыў. Ён ужо быў у шпіталі — асколак рассек левае плячо.

На двары была ўжо восень, калі Амельяновіч вярнуўся ў сваю часць, пад Беласток, з ордэнам Славы III ступені.

На фронце наступіла зацішша. Падцягваліся тылы, свежыя рэзервы. Рыхтавалася новае наступленне.

Для разведчыкаў зацішша не было.

Цёмнай восеньскай ноччу пайшлі разведчыкі па «языка». Іх было пяцёра. Спачатку доўга паўзлі па роўнай, як стол, лугавіне. Злева была вёска, справа — шаша пад моцнай аховай: вакол кулямётныя кропкі, тры рады калючага дроту. А ноч цёмная, хоць вока выкалі.

Разведчыкі наважыліся ўжо павярнуць да вёскі, як збоку шашы пачуўся прыглушаны цокат. Узялі правей. Паўзлі, як мага хутчэй. Па шашы ехала фурманка. На возе сядзеў чалавек, а другі ішоў услед.

— Амельяновіч, Ільчанка, бярыце другога, каторы ідзе, — шэптам перадаў камандзір.

Таго на фурманцы скруцілі лоўка, ён і не пікнуў. А той, што ішоў, кінуўся наўцёкі. Амельяновіч, як коршун, наляцеў на яго. Немец упаў і бразнуўся каскай аб асфальт. Ільчанка ўхапіў яго за ногі, Амельяновіч заткнуў рот кляпам, і ўдваіх пацягнулі фрыца да воза. Немец быў цяжкі. Разведчыкі ўскінулі яго, як мяшок, на воз. Быў, відаць, непрытомны.

Тым часам над шашой павісла асвятляльная ракета.

— Падрыхтаваць гранаты! Будзем прабівацца — начулася каманда.

— Хальт! Вер дорт? — наперадзе цямнеліся тры постаці.

Амельяновіч шпурнуў гранату, хлопцы сцебанулі па капі, фурманка пакацілася далей. Ззаду бушавала страляніна. Пражэктары абмацвалі шашу, а разведчыкі былі ўжо далёка.

Той фрыц, што ішоў за возам, аказаўся фельдфебелем, і шмат чаго ведаў. А на возе былі прадукты.

— Здабылі языка і сёе-тое на язык, — жартавалі разведчыкі. — А фрыцы хай паскуголяць галодныя...

За гэту аперацыю Амельяновіча ўзнагародзілі ордэнам Славы другой ступені. А трэцюю ўзнагароду...

УСПОМНІЛАСЯ гутарка з дзецьмі.

— Скажыце, ці страшна было на вайне? — спытала белагаловая дзяўчынка з вялікім белым бантам, нібы мятлушка, што лятае над капустай.

— Ці баяліся вы смерці? — дадаў важны карапуз.

Амельяновіч доўга маўчаў. Думаў, як лепей адказаць.

— Страшнавата было, дзеці... Калі хто скажа, што ніколі нічога не баяўся, дык ён хлусіць. Проста адзін чалавек можа перамагчы страх, адагнаць яго прэч. А другога страх перамагае... Ці баяўся смерці? Баяўся. Хто хоча паміраць у дваццаць год? Стараўся не думаць пра гэта. Ведаў адно: трэба гнаць ворага з роднай зямлі. А ў баі ўсё можа быць. Але ў душы, дзесьці во тут, — Амельяновіч прыціснуў руку да грудзей, — жыла надзея. Нейкая вера. Няўжо мяне заб'е? Не можа быць, каб я загінуў! І так я ўвёў сабе гэта ў вушы, што ўсе лічылі мяне адважным... А я проста ваяваў. Імкнуўся ўсё рабіць, як мага лепш... Камбат наш заўсёды гаварыў: «Героизм, хлопцы — это исполнение долга». Значыць, калі загадана здабыць «языка», кроў з носу, трэба здабыць... І ўся механіка!

І расказаў Амельяновіч пра свой апошні бой.

...Стаяла вясна сорак пятага. Батальён, у якім служыў Амельяновіч, павінен быў захапіць моцна ўмацаваную вёску. Было гэта ва Усходняй Прусіі. Фашысты люта агрызаліся. Батальён тройчы хадзіў у атаку, тройчы адкатваўся.

Раніцой сержанта Амельяновіча выклікалі да камбата.

— Рыхтуйся, ноччу пойдзеш па языка. Відаць, той фрыц наблытаў, дзе ў іх дзоты...

— Таварыш капітан, ёсць прапанова: трэба абдурыць фашыстаў. Пужнуць, каб яны драпанулі... Ноччу маё аддзяленне зробіць калідор праз міннае поле. А цераз раўчук пакладзем насціл, каб танк перабраўся. Як трохі развіднее, сядзем на танк, — і ў госці. Зойдзем з тылу, наробім столькі грукату, паднімем такі вэрхал... Фрыцы падумаюць, цэлы танкавы дэсант! І ў гэты час атака...

Камбат, малады афіцэр з пасівелымі скронямі і чырвонымі ад стомы вачыма, уважліва паглядзеў на Амельяновіча.

— Цікава, цікава... Зараз абмазгуем.

Праз паўгадзіны Амельяновіч атрымаў загад.

— Рыхтуйце аддзяленне! — капітан падышоў да сержанта і моцна абняў яго. Камбат разумеў, што з такога рэйду цяжка вярнуцца жывым.

Назаўтра батальён выбіў фашыстаў з вёскі. Сержант Амельяновіч з двумя раненнямі і цяжкай кантузіяй апынуўся ў шпіталі.

У шпіталі Амельяновіч сустрэў дзень Перамогі. Сябры пісалі, што яго прадставілі да ўзнагароды. Калі ачуняў, трапіў у іншую часць. Потым быў доўгі шлях праз усю краіну ў Маньчжурыю. Трэба было прыкончыць самураяў.

ЧВЭРЦЬ ВЕКУ прайшло пасля вайны. Не, не забыў яе Амельяновіч! Не перастаў здзіўляцца, як гэта ён застаўся жыць! Столькі загінула таварышаў. І на Дняпры, і на Нёмане, і пад той вёскай... І яго не адзін раз паранілa, але рукі і ногі цэлыя.

Відаць, кожны чалавек, якому давялося пабываць на перадавой, які прайшоў праз пекла вайны, да скону будзе дзівіцца, што вярнуўся дамоў.

...Цалюсенькі дзень, да цёмнага, працаваў Амельяновіч. Мяккае блакітнае ззянне цадзілася праз вокны, калі ён падыходзіў да дому. Ярка свяцілася толькі акно на кухні.

— Тата, тата, хадзі сюды! Фільм пра разведчыкаў паказваюць. Ой, які цікавы! — сустрэў яго Васілёк. — І Марыйцы падабаецца...

— Зараз сынок. Пераапрануся толькі. Ты глядзі. Потым раскажаш...

Неўзабаве селі вячэраць. Марыйка і Васілёк дружна шчыравалі за сталом. Бацька пазіраў на іх і ледзь прыкметна ўсміхаўся.

Вячэра была ў разгары, калі дзверы адчыніліся.

Ці можна да вас? Добры вечар у хату! — на парозе стаяў старшыня мясцовага калгаса «Звязда» Сямён Шарэцкі.

— Калі ласка, Сямён Георгіевіч, заходзьце. Госцем будзеце. Во сядайце, павячэраем, — запрасіў старшыню Амельяновіч.

— Не, дзякуй. Толькі ад стала.

— А наша бульба смачнейшая. Паспрабуйце, Георгіевіч, — угаворвала госця жонка Амельяновіча. — Здымайце плашч і сядайце. Кій на кій шкодзіць, а вячэра на вячэру...

Старшыня зняў плашч, прыгладзіў яршысты чуб, усміхнуўся, маўляў, нічога не зробіш, падсеў да стала.

— Дык ведаеш, Аляксандравіч, чаго я да цябе прыпёрся? Пазваніў ваенком. То да сё, пятае-дзесятае... А потым кажа: «Пішыце тэрмінова характарыстыку на свайго каваля. Малюй падрабязна...» Не стаў я корпацца там у паперах, дай, думаю, зазірну дамоў. На рабоце ў цябе ж усё гарыць. Не пагаворыш... Ветліва можаш выставіць, — усміхнуўся старшыня.

Шарэцкі ганарыўся сваім кавалём і шчыра паважаў яго. Ведаў каваля ён з дзяцінства, бо сам нарадзіўся і вырас у гэтых мясцінах. Пасля сканчэння сельскагаспадарчай акадэміі вярнуўся ў родную вёску.

— Дык з якога ты года ў калгасе, Аляксандравіч? — спытаўся старшыня.

— Вярнуўся я дамоў у сорак дзявятым. Працаваў спачатку цесляром. Трэба ж было ўсё будаваць... А потым, гадоў праз пяць, пайшоў у кузню. Ды вы ж самі ўсё ведаеце, як яно было... З чаго пачыналі...

— Я ніколі не забуду, як прынесла серп назубіць, — падала голас гаспадыня. Паўдня прымусіў чакаць. «Чарга. Чакай». А мы тады ўжо да вяселля рыхтаваліся... От, які жаніх!

— Ну, не паўдня, а калі гадзіну якую і пачакала... Можа мне паглядзець на цябе хацелася? — смяяўся каваль.

Гаворка працягвалася. Шарэцкі адчуваў сябе ўтульна, хораша, ён адпачываў душою. Даўно прыкмечана, што кожная сям'я мае свой мікраклімат. Калі сям'я шчаслівая, там і дыхаецца вальней.

«Умеюць жыць, малайцы, — думаў старшыня. — Абодва такія працаві-

# «ІМ АЗВАЎСЯ БЕЛАРУС...»

**У панядзелак, 30 лістапада, у клубе Саюза пісьменнікаў Беларусі адбыўся вечар, прысвечаны 65-годдзю з дня надрукавання славутага купалаўскага «Мужыка», — верша, які паклаў пачатак бессмяротнай літаратурнай дзейнасці народнага песняра. Залу запоўнілі літаратары, дзеячы культуры і мастацтва рэспублікі, блізкія і сябры Янкі Купалы, студэнты вну і навучэнцы тэхнікумаў сталіцы. Са сцэны на прысутных пазірае малады Янка Купала. А пад партрэтам — яго прарочыя словы:**

К свабодзе, роўнасці і знанню
Мы працярэбім сабе след!
І будзе ўнукаў панаванне
Там, дзе сягоння плача дзед!

**Не, радкі гэтыя не з «Мужыка» — яны будуць напісаны праз два гады пасля першага купалаўскага выступлення ў друку. Аднак памылкі ў тым, што менавіта гэтыя радкі (з верша «Ворагам Беларушчыны») былі змешчаны ў той вечар пад партрэтам, думаецца, няма. Бо хіба не тое самае сцвярджаў паэт і ў «Мужыку», якім упершыню заявіў аб сабе:**

І кожны, хто мяне спытае,
Пачуе толькі адзін крык:
Што хоць мной кожны пагарджае,
Я буду жыць!—бо я мужык!

**Так, першым жа сваім вершам Янка Купала заявіў аб сабе як аб нацыянальным, глыбока народным паэце, песняры свайго краю, як аб выказніку дум і спадзяванняў прыгнечаных і пагарджаных.**

**— Вершам «Мужык», — гаварыў, адкрываючы вечар, народны паэт рэспублікі Пятрусь Броўка, — азваўся не проста геніяльны Янка Купала. Ім азваўся беларус, «пан сахі і касы», азваўся цэлы народ. Гэта быў пачатак не толькі народнай, дэмакратычнай і сапраўды рэвалюцыйнай паэзіі нашага вялікага песняра. Творчасць Янкі Купалы, напоўненая вялікім сацыяльным зместам, прасякнутая велізарнай любоўю да роднага краю і роднага народа, непахіснай вераю ў яго магутныя сілы і магчымасці, пракладала шляхі вялікай плеядзе новых песняроў. І сёння мы з'яўляемся сведкамі нечуванага развіцця духоўных сіл нашага народа, росквіту яго культуры, літаратуры і мастацтва. І тым больш удзячны мы сёння вялікаму Купалу. І прыемна гэта сказаць тут, на вечары, прысвечаным гадавіне з дня ўзыходу яго нязгаснай паэтычнай зоркі.**

**З дакладам на вечары выступіў кандыдат філалагічных навук Ісідар Бас.**

**— Праграмай усёй паэтычнай дзейнасці маладога Купалы, — гаворыць ён,—назваў верш «Мужык» Якуб Колас. Пачынаючы з «Мужыка», Янка Купала свядома ведаў, што і як яму трэба пісаць. І гэта сапраўды так. Ужо ў «Мужыку» яскрава, на поўную сілу праявілася тое, што пасля будзе характэрна для Купалы як паэта. Гэта быў незвычайны паэтычны дэбют. Сіла і глыбіня думкі, грамадзянская мужнасць, яснае ўсведамленне свайго месца і ролі, высокае майстэрства, выяўленыя Янкам Купалам у першым апублікаваным ім вершы, засведчылі нараджэнне паэта вялікага геніяльнага таленту. Творы наступных двух гадоў красамоўна пацвердзілі гэта.**

**Дакладчык падрабязна расказаў прысутным аб пачатку літаратурнай дзейнасці песняра, аб тым асяроддзі, якое ўплывала на станаўленне яго творчага і грамадзянскага светапогляду, аб тым,**

тыя. Майстар-каваль, і лепшая ільнаводка. І дзеці добрыя. Але як аб гэтым сказаць у характарыстыцы?..»

Быў позні вечар, калі Шарэцкі ішоў дамоў. Вецер гойсаў па вуліцы, ганяў сухое лісце, грукаў аканіцамі. У разрыве хмар выблісвула жоўтая талерка месяца. Старшыня падышоў да парку, які нядаўна пасадзілі тут. Ціха пастаяў ля помніка. Помнік звычайны. Ёсць падобныя і ў суседніх калгасах. Але ў Лаўрышаве ён выглядае куды лепш. Пастамент, прыгожая металічная агароджа, ланцугі, вялізная зорка.

Колькі працы, кемлівасці ўклаў сюды каваль Амельяновіч!

« Каб не дзеці, мы б і не ведалі пра ордэн. На словах—мы чулыя... Уважлівыя... — раздумваў старшыня. — А які чалавек! Мы любім хваліць залатыя рукі. Залатую галаву. А вось залатое сэрца цаніць не ўмеем... Любога спяца можна замяніць. А харошага, таленавітага чалавека не заўсёды. Самародак...»

ЗАЛА ДОМА культуры заліта святлом. Народу — поўна. Да трыбуны падышоў пажылы падцягнуты ваенны, начапіў акуляры, і гучна, рубячы кожнае слова, пачаў чытаць:

— «Указ Президиума Верховного Совета СССР»...

Да вушэй каваля данеслася... «отменить приказ командующего... армией...» Потым ваенком зачытаў другі Указ — аб узнагароджанні сержанта Амельяновіча Уладзіміра Аляксандравіча ордэнам Славы першай ступені.

Зала ўзарвалася апладысментамі. Усхваляваны, разгублены каваль падышоў да ваенкома, і той прымацаваў яму на грудзі трэці ордэн.

— Вы заслужылі яго ўсім сваім жыццём, — сказаў ваенком і моцна, па-мужчынску абняў Амельяновіча.

Старшыня калгаса ўручыў кавалю пасведчанне заслужанага калгасніка і... пашпарт халадзільніка.

— Перадай гаспадыні, хай вывучае інструкцыю. Заўтра прывязуць... — сказаў старшыня.

Каваля абдымалі, паціскалі рукі. «Дзякуй, вялікае дзякуй», — ківаў ён ва ўсе бакі. Яго падштурхнулі да трыбуны. І тут Амельяновіч канчаткова разгубіўся — стаяў і маўчаў.

— Смялей, Аляксандравіч! Рубі з пляча! — гукнуў з задніх радоў Віктар Стасевіч.

Зала грымнула рогатам і апладысментамі. Выйшаў каваль з-за трыбуны, каб не замінала. Адразу стала ціха-ціха.

— Прапаную... — глухаваты голас Амельяновіча дрыжаў, нібы яму не хапала паветра. — Прапаную ўшанаваць памяць нашых бацькоў, братоў і сясцёр... мінутай маўчання...

У адзіным парыве ўзняліся людзі. Па шчацэ каваля пацілася, нібы кропелька ртуці, скупая мужчынская сляза...

БЫЎ СВЕТЛЫ восеньскі дзень. Мы сядзелі з Амельяновічам на беразе канала. Ён толькі што прагнаў пракос — касіў атаву сабе «на працэнты», — выцер узмакрэлы лоб, закурыў. Так мы садзіліся пасля кожнага пракоса і гутарылі. Я спрабаваў памагчы, але каса не дужа слухалася.

— Да маёй касы трэба прыладзіцца,—усміхаўся Уладзімір Аляксандравіч. — А як прылаўчышся, дык яна сама рэжа.

Гаварылі мы аб усім. Я ўжо шмат чаго ведаў пра каваля, гаварыў з многімі людзьмі.

Уладзімір Аляксандравіч працуе зараз кладаўшчыком трактарнай брыгады. Былыя раны ўрэшце прымусілі пакінуць кузню. Праўда, летам ён яшчэ спрабуе браць молат, у жніво становіцца за штурвал камбайна.

Былога салдата неадольна вабіць пярэдні край.

Навагрудскі раён.

**як паэзія Купалы набывала вядомасць і прызнанне ў Беларусі і за яе межамі.**

**«Янка Купала і Літва, творчасць нашага песняра і літоўская літаратура» — такая была тэма паведамлення кандыдата філалагічных навук Адама Мальдзіса. Ён гаварыў пра сустрэчы і шчырае сяброўства Янкі Купалы з многімі дзеячамі літоўскай літаратуры і мастацтва, пра першыя пераклады твораў нашага песняра на мову суседзяў, пра першыя водгукі на творчасць беларускага паэта ў літоўскім перыядычным друку.**

**Мастак Барыс Малкін падзяліўся сваімі ўспамінамі аб сустрэчах з незабыўным Янкам Купалам.**

**А пасля адбыўся канцэрт, у якім прынялі ўдзел народны артыст БССР А. Астрамецкі, заслужаныя артысты рэспублікі Р. Маленчанка і П. Дубашынскі, артысты М. Барысава і В. Турмовіч. У канцэрце гучалі вершы народнага песняра і песні, створаныя беларускімі кампазітарамі на яго тэксты.**

## НОВЫЯ НАЗВЫ НА АФІШАХ



Дзяржаўны акадэмічны тэатр оперы і балета Беларускай ССР паказаў прэм'еру оперы «Зорка Венера» заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Юрыя Семянякі (лібрэта Алеся Бачылы), прысвечанай жыццю і паэтычнай творчасці Максіма Багдановіча. Рэжысёр — заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР С. Штэйн, дырыжор — заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР і Татарскай АССР К. Ціханаў. Дэкарацыі зроблены па эскізах народнага мастака БССР Я. Чамадурава. У галоўных ролях на прэм'еры выступалі заслужаны артыст рэспублікі А. Саўчанка (Максім Багдановіч) і народная артыстка БССР Л. Галушкіна (Вераніка). Іх вы бачыце на здымку: Максім злева сярод людзей, Вераніка—справа.

Фота Ул. КРУКА.

З пошты ЛіМа

# КАБ НЕ ПЕРАСЫХАЛІ КРЫНІЦЫ

У артыкуле «Рукатворныя мелодыі», які змешчаны ў «Літаратуры і мастацтве» 25 верасня г. г., узнімаюцца аўтарам важныя пытанні: чаму праблемамі развіцця народнага мастацтва паралельна займаюцца дзве такія арганізацыі, як рэспубліканскі Дом народнай творчасці і рэспубліканскі Дом мастацкай самадзейнасці Беларускага савета прафсаюзаў, і ці не пара арганізаваць рэспубліканскі музей народнага мастацтва і этнаграфіі?.. Гэтыя пытанні ўяўляюцца мне сур'ёзнымі таму, што ад правільнага вырашэння іх залежыць сёння далейшае развіццё народнага мастацтва і звязаных з ім народных промыслаў.

Як было да гэтага часу? Метадычныя парады народным умельцам даваў рэспубліканскі Дом народнай творчасці. Сёння ён мае двух метадыстаў—па самадзейным выяўленчым і па дэкаратыўна - прыкладным мастацтве. У абласных дамах народным мастацтвам займаецца адзін метадыст. У раённым аддзеле культуры метадыста зусім няма. Народнымі ўмельцамі час ад часу цікавяцца або інструктар па танцах, музыцы або інспектар аддзела культуры. Ёсць раёны, дзе «адказвае» за гэту работу адзін з народных майстроў. Як «адказвае» — няцяжка ўявіць, бо ніхто з яго не мае права спытаць. Гэта ж энтузіяст, добраахвотнік.

Вось чаму ў многіх раёнах не працуюць з народнымі ўмельцамі, часам нават не ведаюць іх. Відаць, таму не было юбілейных выставак у Мінскім, Старадарожскім, Шаркаўшчынскім, Расонскім, Пастаўскім, Чашніцкім, Дубровенскім, Берастовіцкім, Зэльвенскім і іншых раёнах.

У справаздачы аб камандзіроўцы ў Брэсцкую вобласць наш кансультант Наталля Паплаўская пісала: «Едучы ў Пружаны, я мела некалькі адрасоў ганчароў. Але з іх у нейкай ступені перспектыўным і дзеючым аказаўся толькі Антон Рыгоравіч Такарэўскі... У Пружанскім аддзеле культуры наогул не ведалі, што ў іх ёсць ганчары».

Прыкладна такое становішча і ў Старадарожскім раёне.

Прыехала я туды па сігналах. Аб'ездзіла з інспектарам дзесяць вёсак — распытвалі, знаёміліся з людзьмі. І што ж? Знайшлі адзінаццаць майстроў!

Міжволі думаецца: а што калі пабываць ва ўсіх раёнах рэспублікі? Колькі ж яшчэ дабавіцца ўмельцаў да тых вядомых пяці тысяч, аб якіх гаворыць аўтар артыкула «Рукатворныя мелодыі» Міхась Раманюк! І ўсе яны, асабліва ў зімовы час, маглі б працаваць з большай аддачай.

Зараз работнікі рэспубліканскага Дома мастацкай самадзейнасці, Мастацкага фонду, упраўленняў мастацкай і мясцовай прамысловасці, Дома мадэляў і г. д. заключаюць у раёнах дагаворы. Кожны — сам па сабе. І М. Раманюк справядліва піша, што трэба мець творчае аб'яднанне народных майстроў, як «Уку» ў Эстоніі. Яно каардынавала б работу ўмельцаў, памагала б ім матэрыяламі, праз яго б ішлі ўсе заказы народным умельцам. І ўжо не было б такіх фактаў, калі на сяло едуць каму ўздумаецца, невукі ў пытаннях гісторыі беларускага мастацтва, і заключаюць дагаворы. У выніку на прылаўкі магазінаў трапляюць тавары, у якіх цяжка выявіць элементы нацыянальнага, беларускага, а то і проста нізкамастацкія рэчы. А трэба ж і да творчасці народных майстроў адносіцца ўмела і асцярожна!

Тэарэтычную дапамогу народным умельцам, акрамя дамоў народнай творчасці, зараз аказваюць і дамы мастацкай самадзейнасці. Па сутнасці, мы робім адну і тую ж справу, толькі часам так атрымліваецца, што адзін робіць, а другі пераробляе. Колькі неразбярыхі было ў час падрыхтоўкі да апошняй юбілейнай выстаўкі народнага мастацтва. Так, напрыклад, раённыя і абласныя выстаўкі-конкурсы арганізоўвалі і праводзілі ўпраўленні культуры. У гэтых выстаўках удзельнічалі ўмельцы, з якімі многа гадоў працавалі метадысты абласных дамоў народнай творчасці. Метадысты ж абласных дамоў мастацкай самадзейнасці, якія яшчэ не маюць вопыту работы з народнымі майстрамі, адносіліся да справы пасіўна. Што ж атрымалася далей? Лепшыя экспанаты з абласных выставак экспапанаваліся на рэспубліканскай, якую фінансіраваў і праводзіў... Дом мастацкай самадзейнасці прафсаюзаў. Маўляў, і мы ж не апошнія ў гэтай справе. Але ці трэба так рабіць? Крыўдна будзе, калі наша «дзіця» застанецца без носа: а так заўсёды бывае, калі з'яўляюцца дадатковыя нянькі.

Няправільна — дзяліць народнае мастацтва па ведамаснай прыналежнасці. Навошта ў рэспубліцы дзве арганізацыі па тэорыі народнага мастацтва? Ці не лепш было б, каб метадысты дамоў народнай творчасці і дамоў мастацкай самадзейнасці прафсаюзаў працавалі разам?

Народнае мастацтва Беларусі на сённяшні дзень ахоплівае такія віды, як ткацтва, кераміка, пластыка малых форм, жывапіс, графіка, скульптура, вышыўка, вязанне, пляценне з саломкі, лазы, інкрустацыя, інтарсія, шкло, бяроста, разьба па дрэве і рогу, выпальванне, чаканка і іншыя. Двум метадыстам з рэспубліканскага Дома народнай творчасці займацца ўсім гэтым проста не пад сілу. А ці не лепш было б, каб і спецыялістаў Дома мастацкай самадзейнасці перадалі нам? Быў бы створаны адзіны сектар, работнікі якога змаглі б больш удзяліць ўвагі кожнаму віду мастацтва. Такім чынам можна ўпарадкаваць штаты і ў абласных дамах народнай творчасці. А было б у дадатак да гэтага яшчэ адно неабходнае звяно — адзінка мастацтвазнаўцы ў раённым аддзеле культуры, то работа пайшла б лепш, адчувалася б непарыўная сувязь рэспубліканскіх арганізацый з народнымі майстрамі.

Да нашага часу захаваліся ў Беларусі многія рамёствы. Але нас непакояць і такія, якімі ўжо даўно перасталі займацца. Некаторыя з іх аднноўлены да жыцця, але час патрабуе, каб і астатнія забытыя промыслы былі пастаўлены на службу нашай культуры. Цяпер не займаюцца, напрыклад, набойкай і пякарскай скульптурай. А між тым з патомным майстрам, у якога захаваліся друкарскія дошкі, які добра ведае тэхналогію набойкі, мне давялося пазнаёміцца ў Краснапольскім раёне. Гэты майстар — Мікалай Давыдзенка, жыве ён у вёсцы Ячная Буда. Ці такі факт: мастаку М. Філіповічу — даследчыку народнага мастацтва—удалося яшчэ ў 1946 годзе замаляваць цудоўныя ўзоры народных пернікаў пад Мінскам. Чаму б не аднавіць і гэты від творчасці?

Безумоўна і бясспрэчна— патрэбен музей, патрэбна месца, дзе ўсё гэта павінна захоўвацца і дэманстравацца. У кнізе водгукаў рэспубліканскай выстаўкі-конкурсу, прысвечанай 100-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна, было вельмі шмат водгукаў-пажаданняў наведвальнікаў, накшталт такога: «Кожная рэч гэтай выстаўкі так і просіцца ў пастаянную экспазіцыю музея. Кожны экспанат — гэта нібы крупінка шматграннага таленту беларускага народа. Будзе вельмі і вельмі радасна, калі ў Беларусі адкрыецца нацыянальны музей народнага мастацтва».

Безумоўна, адкрыць музей не так проста. І калі ў адной з рэспублік Сярэдняй Азіі рэспубліканская выстаўка дала першыя экспанаты для такога музея, то Беларускі рэспубліканскі Дом народнай творчасці ўжо даўно закупляе экспанаты з такіх выставак. З-за адсутнасці памяшкання яны перададзены на часовае захаванне ў Дзяржаўны музей БССР і Дзяржаўны мастацкі музей. З апошняй выстаўкі таксама закуплены лепшыя экспанаты. Шмат экспанатаў для будучага музея могуць прадаставіць абласныя дамы народнай творчасці, сектар «Зводу помнікаў гісторыі і культуры Беларускай ССР», і іншыя музеі.

Новы музей стаў бы месцам, дзе праходзілі б практыку студэнты тэатральна-мастацкага інстытута, мастацкага інстытута, мастацкага вучылішча імя А. Глебава. З невычэрпных багаццяў гэтага музея будуць чэрпаць ідэі і натхненне мастакі-прыкладнікі прадпрыемстваў упраўлення мастацкай прамысловасці, на лепшых народных узорах будуць вучыцца маладыя майстры народнага мастацтва. Хіба не такі самы разумны шлях для спалучэння традыцый і наватарства ў галіне народна-прыкладнога мастацтва, заклікаць яго актыўна служыць нашай сучаснасці?

М. ЖАБІНСКАЯ,
метадыст рэспубліканскага Дома народнай творчасці.

# ПЕСНІ НАДДЗВІННЯ

У АПОШНІЯ гады Віцебшчына стала адным з самых песенных краёў нашай рэспублікі. Пераканаўчае сведчанне гэтага — і новы зборнік песень, выпушчаны абласным Домам народнай творчасці.

Сярод аўтараў зборніка — і людзі, якія маюць спецыяльную адукацыю і вопыт (С. Рабунскі, Я. Касалапаў, А. Гоман, Б. Магаліф, Б. Насоўскі), і шырока вядомыя ў рэспубліцы і за яе межамі самадзейныя творцы — заслужаны настаўнік БССР з Полацка М. Пятрэнка, заслужаны дзеяч культуры БССР В. Смірноў, У. Гарбатоўскі, М. Зелянкевіч, У. Алепкін, чые «дэбюты» ў кампазіцыі пачаліся некалькі гадоў назад. Увайшлі ў зборнік «Песні кампазітараў Віцебшчыны» і творы тых аўтараў, чый шлях у мастацтве толькі пачынаецца.

Перш чым гаварыць пра асобныя творы зборніка больш падрабязна, адзначым яго сюжэтную і жанравую разнастайнасць. Прадстаўлены тут песні пра Леніна, пра камсамол, пра тых, хто навек застаўся на палях вайны, пра любую Радзіму і Наддзвінскі край, — сольныя і харавыя, з акампанементам і акапэльныя, для жаночага і змешанага складу, урачыстыя і лірычныя, з настроем суровага смутку і вясёлыя.

Я наўмысна адразу падкрэсліў багацце тэм зборніка, яго разнабаковасць, каб было відаць, што віцебскія кампазітары імкнуцца ў сваёй творчасці ахапіць шматлікія праявы нашага жыцця, раскрыць яркія рысы духоўнага аблічча сучаснікаў, што яны ў многім паспяхова авалодваюць песенным жанрам.

Тры творы ў зборніку прысвечаны Уладзіміру Ільічу Леніну: хор а капэла «Дума пра Леніна» В. Гарбатоўскага (словы Г. Рэгістана), твор для саліста, змешанага чатырохгалосага хору і фартэпіяна «Песня пра Леніна» М. Зелянкевіча (апрацоўка С. Рабунскага, словы М. Жогалева) і песня для саліста, двухгалосага хору і фартэпіяна «Ленін па свеце ідзе» Я. Касалапава (словы К. Цвіркі).

Першы з твораў моцна ўражвае не толькі шчырай, глыбока народнай па гучанні задуменнай мелодыяй, але і тонкім густам, з якім В. Гарбатоўскі выкарыстаў супрацьпастаўленне жаночай групы хору яго агульнаму чатырохгалосаму змешанаму складу, і тым, як аўтар увёў падгалосак у партыі сапрана. Музыку, якую стварыў В. Гарбатоўскі, вельмі прыемна і слухаць і выконваць.

Для «Песні пра Леніна» характэрная ўрачыстая стрыманасць. Высакародна гучыць тут мелодыя ў партыі саліста. Лаканічна падмацоўваецца ідэя твора ў харавым прыпеве. Неабходную шырыню і веліч вобраза надае песні фартэпіянны акампанемент. Дадамо, што М. Зелянкевіч удала выкарыстаў пераменны памер тактаў, каб стварыць непарыўную вакальную лінію твора, што добра адпавядае структуры паэтычнага тэксту.

Мелодыя запеву песні Я. Касалапава не вызначаецца яркасцю. Я б сказаў, нават, што яна неяк затармажана ў апошніх двух тактах. Але ў харавы прыпеў аўтар цікава, вынаходліва ўводзіць папеўку любімай песні Ільіча «Варшавянка».

Леніну і Радзіме прысвечана песня «Мы свой паход працягваем» А. Гомана (словы А. Жарава), напісаная для саліста і фартэпіяна. Яна вызначаецца актыўнай, напорыстай мелодыкай, што добра падкрэслена маршавым рытмам і фанфарнымі гучаннямі ў партыі акампанемента. Да ліку вартасцей гэтай песні А. Гомана трэба аднесці і тое, што яна вельмі лёгка запамінаецца.

З дзвюх песень гэтага раздзела, што напісаны М. Пятрэнкам, чатырохгалосы акапэльны хор «Слаўнае свята» (словы В. Лукшы) вабіць яркім узнаўленнем атмасферы ўрачыстай весялосці і шчырасці ў раскрыцці пачуццяў радасці. Твор успрымаецца як народны, настолькі ён блізкі да фальклорных вытокаў.

Меншае ўражанне пакідае вакальны дуэт з фартэпіяна «Песня пра Радзіму і зямлю» Б. Магаліфа на словы Я. Шабана. Мала арыгінальная тут мелодыя, не хапае вынаходлівасці ў партыі акампанементу, ёсць недахопы і ў будове формы твора.

Раздзел, прысвечаны Наддзвінню, на жаль, не самы цікавы ў зборніку. Толькі разгорнуты твор С. Рабунскага для саліста, змешанага чатырохгалосага хору і баяна — «Раніца над Дзвіною» (словы Я. Шабана) ўяўляе пэўную каштоўнасць. Тут добра выкарыстаны магчымасці выканаўцаў, прывабная мелодыя стрыманага вальса, удалая форма раскрыцця зместу песні. Што датычыцца астатніх твораў, прысвечаных Віцебшчыне, дык «Прывітальная» В. Смірнова (словы народныя) для змешанага хору а капэла недастаткова выразная па сваёй харавой будове, адчуваецца надуманасцю метрарытму.

Адно з цэнтральных месц у зборніку «Песні кампазітараў Віцебшчыны» займаюць творы, прысвечаныя тым, хто аддаў сваё жыццё за свабоду і незалежнасць Радзімы ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Па сваіх мастацкіх вартасцях песні гэтыя нераўназначныя. Лепшае ўражанне робяць тыя, у якіх няма імкнення да пампезнасці, знешняй урачыстасці. Гэта сціплыя па сродках музычнай выразнасці, але цэласныя, глыбокія па ўвасабленні строгіх вобразаў «Партызанскія сцежкі» Б. Магаліфа для вакальнага дуэта і фартэпіяна (словы Р. Траяноўскага), «Ля салдацкай магілы» С. Рабунскага для саліста, змешанага хору і фартэпіяна (словы П. Камарова) і «Песня пра Марата Казея» У. Алепкіна (словы А. Вольскага) — трохгалосы хор без суправаджэння.

«Чыстая» лірыка ў зборніку прадстаўлена творамі «Хочаш, прапяю табе песню» В. Петухова (словы Д. Цярэшчанкі) для чатырохгалосага змешанага хору з фартэпіяна. Абедзве песні, наогул, удаліся. Але было б пажадана ў мелодыі першай з іх пазбавіцца паўтораў запар тых жа гукаў. Песня была б тады больш дынамічнай. У другім творы не трэба захапляцца сінкопамі ў акампанеменце, бо яны часам надаюць музыцы мітуслівы характар.

Апошнія тры песні зборніка — «Калгасны танец» і «Ажаніўся дзед Пахом» М. Пятрэнкі і «Юрачка» Б. Насоўскага — даюць уяўленне пра авалодванне аўтарамі жанраў шпаркіх і вясёлых, гумарыстычных па вобразах вакальных твораў. Як і ў іншых песнях М. Пятрэнкі, тут добра адчуваюцца народныя вытокі музыкі. Апрацоўкі гэтых песень адпаведна для хору а капэла і саліста, хору і баяна ўдала зрабіў С. Рабунскі.

Дваццаць дзве песні — дваццаць дзве творчыя спробы раскрыць свае пачуцці і думкі. І ў большасці сваёй — спробы ўдалыя. Дык чаму ж песні, падрыхтаваныя два гады назад, толькі цяпер убачылі свет? Чаму кіраўніцтва абласнога Дома народнай творчасці павінна было пераадолець столькі перашкод, каб выдаць кніжку?

Мне здаецца, што пры тых дрэнных умовах, якія склаліся ў нас у галіне выдання нот праз выдавецтва «Беларусь», дзе няма адпаведнай паліграфічнай базы і патрэбных сродкаў, трэба дазволіць сістэматычна выдаваць лепшыя творы мясцовых аўтараў абласнымі дамамі народнай творчасці. Вопыт віцяблян паказвае, што пры сур'ёзных адносінах да гэтай справы вынікі атрымліваюцца добрыя.

І. НІСНЕВІЧ.

# ЗАСВЕДЧАНА ЎДЗЕЛЬНІКАМ

З ХВАЛЯВАННЕМ чытаеш кнігу Героя Савецкага Саюза Эдуарда Віктаравіча Лаўрыновіча «Вогненныя рэйкі», якая нядаўна выйшла ў выдавецтве «Беларусь». Аўтар гэтай кнігі да вайны быў старшынёй калгаса «Перамога» Буда-Кашалёўскага раёна. Патомны хлебароб, ён шчыра любіў зямлю і працу на ёй. І толькі страшэннае няшчасце, якое звалілася на нашу краіну, прымусіла яго ўзяць у рукі зброю і бязлітасна помсціць ворагу.

Мне, гамяльчаніну, знаёмы ў кнізе многія геаграфічныя назвы: Шарыбаўка, Салтанаўка, Віктарынскі і Лозаўскі лясы. Аўтар піша аб тым, што сам перажыў, аб сябрах па барацьбе, аб тым, як нялёгка было стварыць дыверсійны ўзвод, як цяжка даваліся ўзрывы на чыгунках, як часам памыляліся людзі. І толькі, відаць, з-за сціпласці ён ўмоўчвае пра асабістыя баявыя справы. На баявым жа рахунку былога старшыні калгаса 35 знішчаных эшалонаў праціўніка. А дыверсійны ўзвод, якім камандаваў Э. Лаўрыновіч, пусціў пад адхон 54 варожыя эшалоны. І гэта на ўчастку, дзе праходзілі камунікацыі фашысцкіх армій «Цэнтр», на ўчастку, які асабліва пільна ахоўваўся гітлераўцамі.

Многія старонкі кнігі Э. Лаўрыновіча хвалююць чытача апісаннем высокага душэўнага хараства савецкіх людзей — камуністаў, камсамольцаў, беспартыйных, якія самаахвярна змагаліся з ненавісным ворагам. Там, дзе цяжэй, заўсёды былі камуністы.

У кнізе змешчаны здымкі многіх з тых, хто поплеч з Э. Лаўрыновічам у цяжкія гады вайны каваў перамогу над ворагам, прыводзіцца фотарэпрадукцыя лістоўкі, выпушчанай Гомельскім абкомам КП(б)Б і Гомельскім абкомам ЛКСМБ «Да моладзі Гомеля і Гомельскай вобласці».

Хочацца некалькі цёплых слоў сказаць у адрас Аляксея Кейзарава, былога вясковага настаўніка, а зараз літаратара. Гэта ён зрабіў літаратурны запіс успамінаў Э. Лаўрыновіча.

Цікавая кніга папоўніла кніжную паліцу нашай мемуарнай літаратуры, прысвечанай суровым гадам барацьбы з фашысцкімі захопнікамі.

М. ДАНІЛЕНКА.

Э. Лаўрыновіч. «Вогненныя рэйкі». На рускай мове.

# УПЕРШЫНЮ НА БРАТНЯЙ МОВЕ

Эх, чаго нам ні прыйшлося,  
Брацці мілыя, ужыць!  
Колькі талентаў звялося,  
Колькі іх і дзе ляжыць  
Невядомых, непрызнаных,  
Не аплаканых нікім,  
Толькі ў полі адспяваных  
Ветру посвістам пустым!

Міжволі прыгадваеш гэтыя словы Якуба Коласа, калі пачынаеш знаёміцца з цудоўна аформленай і з густам выдадзенай на ўкраінскай мове кніжкай беларускіх прыказак і прымавак «Мудрість народна». Складальнікам і перакладчыкам яе з'яўляецца вядомы ўкраінскі паэт, перакладчык твораў народных паэтаў Беларусі П. Броўкі, А. Куляшова, М. Танка і многіх іншых майстроў беларускага мастацкага слова, даўні і шчыры сябра нашай культуры і літаратуры Алесь Жолдак. Ён з любоўю сабраў і здолеў данесці да ўкраінскага чытача залатыя россыпы народнай мудрасці, у якіх знайшлі сваё яскравае адлюстраванне векавы жыццёвы вопыт і маральна-практычная філасофія, нацыянальная самасвядомасць і грамадская думка, дасціпны розум і багацце фантазіі нашага народа.

У сціслай прадмове да зборніка Алесь Жолдак, характарызуючы прыказкі і прымаўкі як адзін з найбагацейшых і арыгінальных жанраў нашага фальклору, дзе так цесна перапляліся індывідуальны і калектыўны пачаткі, слушна зазначае: «Беларускія прыказкі і прымаўкі — гэта цэлая энцыклапедыя жыцця свабодалюбівага народа, яго самасвядомасць і нацыянальная самабытнасць, жыццёвы вопыт і людскія ўзаемаадносіны, побыт, звычаі, вера ў шчаслівую будучыню. Яны зіхацяць вострым розумам, іскрыстым гумарам, яскравай паэтычнай метафарычнасцю, усімі разнавіднасцямі багацця народнага слова».

Кніжка беларускіх прыказак і прымавак на ўкраінскай мове выдадзена ўпершыню. Складзена яна па тэматычным прынцыпе. Назвы раздзелаў яе — «Ленін нашу долю вывеў на волю», «З роднай зямлі — памры — не сыходзь», «На паноў рабілі, самі голыя хадзілі», «Хто не сее, той не вее», «Кожны свой розум спрабуе», «Жыццё пражыць — не лапці сплесці», «Яго чэрці ў пазычку не бяруць», «На ўсё ёсць прыказка» — гавораць ужо самі за сябе. У іх заключаны багаты і разнастайны змест і мудры сэнс.

Добрую паслугу сваёй карпатлівай працай зрабіў Алесь Жолдак украінскаму чытачу. Ён уклаў яшчэ адну цагліну ў трывалы падмурак сардэчнай і шчырай дружбы, культурных і літаратурных узаемасувязей, братэрскіх узаемаадносін паміж нашымі народамі.

М. БАЗАРЭВІЧ.

«Мудрість народна. Білоруські прислів'я та приказки». Выдавецтва мастацкай літаратуры «Дніпро». Кіеў, 1970.

# ЭКЗЮПЕРЫ ПА-БЕЛАРУСКУ

НЕЗВЫЧАЙНУЮ, своеасаблівую аповесць-казку, поўную глыбока-філасофскага і жыццёвага сэнсу — кнігу Антуана дэ Сент-Экзюперы «Маленькі прынц» чытаюць і дарослыя, і дзеці ў многіх краінах свету. Нядаўна яе пераклала на беларускую мову Эдзі Агняцвет.

Да гэтага часу мы ведалі беларускую паэтэсу як перакладчыцу французскай паэзіі. Запомніліся яе ўдалыя пераклады вершаў Беранжэ, Гюго, Апалінэра, сучасных французскіх паэтаў.

Але і да кнігі «Маленькі прынц» яна звярнулася невыпадкова. Напісаная прозай, уся гэта казачная аповесць, з пачатку да канца, прасякнута паэзіяй самага высокага напалу.

Перад беларускай перакладчыцай стаялі значныя цяжкасці: у «Маленькім прынцы» цесна пераплятаюцца смутак і іронія, гумар і сарказм, глыбокія разважанні і філасофскія абагульненні. Прычым усё гэта схавана ў падтэксце кнігі, у якой, паводле слоў аўтара, самае прыгожае тое, чаго не ўбачыш вачыма.

Трэба было валодаць вялікім тактам і пачуццём меры, каб выразна і глыбока перадаць своеасаблівасць арыгінала, захаваць эмацыянальна непаўторную індывідуальнасць Экзюперы, казачны і ў той час зусім рэальны і сучасны каларыт яго аповесці.

Кожны раз, расказваючы пра сустрэчы маленькага прынца з рознымі людзьмі, Экзюперы мяняе танальнасць апавядання. Менавіта гэтую асаблівасць стылістыкі французскага пісьменніка тонка ўлоўлівае перакладчыца.

Захоўваючы ў сваім перакладзе своеасаблівасць лексікі аўтара, Э. Агняцвет прыдае ёй беларускую афарбоўку. Калі ў Маленькага прынца, напрыклад, запыталіся, куды пойдзе яго баранчык, ён адказаў: «А хоць куды! Проста і проста, куды вочы глядзяць». Характарызуючы славалюба, з якім сустракаецца Маленькі прынц, перакладчыца выкарыстоўвае прымаўку: «Аржаная каша сама сябе хваліць і нічога не чуе, апроч пахвалы».

Французскі выраз «Honte de boire» замяняецца беларускім «п'янства розум з'ела». У другім месцы выкарыстоўваецца прыказка: «Ды і п'янства — чалавеку паганства».

Жадаючы падкрэсліць гратэскавасць адной сцэны, аўтар з іроніяй заўважае, што заўсёды так бывае: калі хочаш сказаць што-небудзь занадта дасціпнае, то мімаволі гаворыш няпраўду. Гэтую думку Э. Агняцвет перадае словамі, характэрнымі для народнай беларускай гутаркі: «Калі вельмі хочуць паказаць сваю дасціпнасць, то мімаволі раскажуць пра грушы на вярбе».

Яшчэ больш складана было ў тых выпадках, калі перакладчыцы даводзілася сродкамі сваёй мовы перадаваць унутраную рытміку арыгінала. Магчыма, гэта не заўсёды ўдалося, але ў многіх выпадках Э. Агняцвет умела выкарыстоўвае свае знаходкі. Так, Экзюперы, гаворачы аб сваіх здольнасцях жывапісца, сціпла заўважыў, што ён спрабаваў маляваць, але гэта яму не вельмі ўдавалася. «Я малюю і так, і сяк, і абы як», — удала перакладае Э. Агняцвет.

Добра перададзены анафары, характэрныя для мовы Экзюперы. Напрыклад: «Яны пытаюць: «А колькі яму гадоў? Колькі ў яго братоў? Колькі ён важыць? Колькі зарабляе яго бацька?».

Кніга Экзюперы, якая вучыць вернасці, шчырасці, чалавечнасці, перакладзеная на беларускую мову, знайшла сваіх удзячных чытачоў. Выдадзеная ў 16.000 экземпляраў, яна за некалькі дзён стала бібліяграфічнай рэдкасцю.

Н. ЛАПІДУС,  
кандыдат філалагічных навук.

Антуан дэ Сент-Экзюперы. «Маленькі прынц». Выдавецтва «Беларусь». Мінск, 1969.



**Цвітуць** шчаслівыя ўсмешкі, палымнеюць радасцю твары... У ахвоту напрацаваўшыся, добра і адпачыць, пазаймацца ў гуртках мастацкай самадзейнасці, паказаць свае здольнасці...

Штодзень у Салігорскі Палац культуры гарнякоў прыходзяць сотні шахцёраў. І кожны знаходзіць у Палацы сабе занятак па душы.

Фота В. ДУБІНКІ.

# ...І ГОРАД МУЗЫКІ

*УРАЖАННІ АД АДНОЙ КАМАНДЗІРОЎКІ*

НАВАПОЛАЦК — горад гіганцкіх будоўляў, вялікай хіміі. А можа ў будучым — і вялікай музыкі? Ва ўсякім разе, такое ўражанне склалася ў мяне ад трох дзён камандзіроўкі. Вось некаторыя ўспаміны, прадыктаваныя запісамі ў блакноце.

## ДЗЕНЬ ПЕРШЫ

Пуцёўка таварыства «Веды» прывяла мяне да інтэрната маладых рабочых нафтаперапрацоўчага завода. Пакой адпачынку. Утульна, прасторна. Вялікі тэлевізар, піяніна, прыгожая мэбля.

Калі слухачы сабраліся, я пачаў гутарку з пытання:

— Калі ўключаны прыёмнік, якой музыцы вы аддаяце перавагу?

— Вядома, эстраднай. Класіку цяжка слухаць,— пачуліся галасы.

— А вось гэта музыка падабаецца?

Уключыў радыёлу, і пакой напоўніўся празрыстымі, ласкавымі і пяшчотнымі гукамі фартэпіяннай п'есы Бетховена «Элізе».

Рабочыя ўважліва слухалі. Я расказаў, што часта ў аснове твораў ляжаць пэўныя матывы — тэмы (галоўныя, пабочныя, звязваючыя), якія распрацоўваюцца, а потым паўтараюцца.

На прыкладах славутых санат — «Патэтычнай», «Месячнай», «Апасіянаты» мы разам «раскалвалі арэшак» — санатную форму. Вялікае ўражанне зрабіў на слухачоў фінал Дзевятай сімфоніі. Адмаўленне ад усіх тэм папярэдніх частак (патрэбны новыя песні!), з'яўленне матыву радасці — спачатку нясмелага ў віяланчэляў і кантрабасаў, потым усё больш гучнага і ўрачыстага ў салістаў, хору і аркестра — знайшло жывы водгук.

Здавалася, кантакт з аўдыторыяй наладжаны. І раптам... З апошняга рада ўстае хлопец з ярка-чырвоным тварам (паспеў ужо выпіць) і задае, як яму здаецца, вельмі дасціпнае пытанне:

— А вы можаце сыграць «Каробачку»?

У зале выбух смеху.

Адказваю:

— Магу.

— Дык сыграйце!

Падыходжу да піяніна, выконваю «Каробачку» і думаю, як бы зноў настроіць аўдыторыю на сур'ёзную размову. Мой «заказчык» дзякуе і выходзіць. Я з палёгкай уздыхаю. Але ўжо пасыпаліся пытанні не па тэме:

— А ці можна хутка навучыцца іграць на піяніна?—гаворыць сімпатычны бландзін з першага рада.

— Адразу нічога не робіцца. Калі б я зараз паспрабаваў падняць штангу ў сто кілаграмаў,— адказваю, — таксама нічога не атрымалася б, праўда?

Усе засмяяліся.

— Значыць, трэба штодзённа займацца. І нямала музыкантаў пачалі свой шлях у вашым узросце. Зразумела, трэба мець музычныя здольнасці, слых.

— А ў мяне ёсць слых? — пачуліся галасы.

Адчуваю, што ўсё далей адыходжу ад тэмы, але не магу нічога зрабіць. Пачынаю «экзамен». Не ўсе праспявалі зададзеныя ноты, але двое здзівілі сваімі здольнасцямі.

Зусім маладзенькі хлопчык хрыплаватым голасам выдатна інтаніраваў. Пры гэтым ён вельмі бянтэжыўся.

Бландзін жа, які ведаў сабе цану, задушэўным і прыемным тэнарам пачаў спяваць рамансы.

Пытаюся ў яго:

— Чаму не вучыцеся?

Усміхаецца і, блiснуўшы вачыма, адказвае:

— А хто ж нафту будзе даваць?

— А сумяшчаць нельга?

— Яно б нядрэнна.

Гляджу на яго, рослага, прыгожага, здольнага, на тых, хто расхваляваўся з-за свайго невуцтва, і так хочацца ім дапамагчы далучыцца да вялікага мастацтва! Абяцаю дамовіцца з музычным вучылішчам аб шэфстве. Хоць усе стаміліся, нехта просіць: «Пастаўце яшчэ раз першую пласцінку!»

І зноў гучыць «Элізе». Цяпер яе слухаюць неяк інакш, «даследчаным» вухам. Адчуваю, што многія адкрылі для сябе нешта важнае. «Чаму мы, музыканты-педагогі, так рэдка сустракаемся з працоўнымі людзьмі? —думаю я. — Жывём, каб вучыць сваіх вучняў? А тыя будуць вучыць сваіх? Можна ж зрабіць больш. Можна!»

## ДЗЕНЬ ДРУГІ

Знаёмае асяроддзе — музычнае вучылішча. Метадычная дапамога: лекцыі для педагогаў і студэнтаў, інтанацыя, пераходы, размеркаванне смыка і г. д. Вядома, самае цікавае — гэта людзі. Яны ў асноўным маладыя — і навучэнцы, і педагогі, якія нядаўна закончылі кансерваторыю ці яшчэ заканчваюць... Сустракаю былых мінчан:

Заходжу ў кабінет дырэктара Барыса Пятровіча Палякова. Зусім не змяніўся Барыс. Такі ж малады, падцягнуты, сабраны, як і ў кансерваторскія гады.

— Бачу, клопатаў у цябе многа.

— Хапае! Збіраемся пашыраць будынак. Дабудуем вялікую і малую залы, а з цяперашняй зробім фізкультурную залу. Хутка будзе пяціпавярховы інтэрнат. Заўважыў, што цесна стала? Так, у нас будзе вучыцца 400 чалавек! А класаў усяго 35. Педагогаў не хапае.

Гутару з вучнямі. Худзенькая віяланчэлістка з вялікімі вачыма расказвае аб сваім парадку дня: «Сёння будзільнік празвінеў у пяць раніцы. Да лекцый займалася і вечарам буду іграць». Адчуваю руку педагога — дзейнай, ініцыятыўнай студэнткі завочнага аддзялення кансерваторыі Зіны Родавай.

Слухаю яе вучняў. Малайчына! За два гады створаны віяланчэльны клас — 11 чалавек. Ва ўсіх добрыя інструменты. Некаторыя, безумоўна, здолеюць працягваць адукацыю ў кансерваторыі. Але ёсць і слабыя, нават вельмі слабыя.

Работа віяланчэльных класаў па-сапраўднаму пакуль пастаўлена ў Брэсце і Магілёве. Тут, як правіла, няма баласту — прафесіянальна непрыгодных. У іншых жа вучылішчах да гэтага часу і дырэкцыя і педагогі цягнуць слабых студэнтаў да дыплома. Зрэшты, што ім застаецца рабіць? Слаба рыхтуюць па гэтай спецыяльнасці вучняў у школах, і вучылішчам няма з каго выбіраць.

Якія памылкі з'яўляюцца тыповымі для струнных класаў? Не ва ўсіх вучняў, як кажуць музыканты, «арганізаваны рукі», часта яны заціснуты. Недастатковая ўвага ўдзяляецца інтанацыі, дрэнна развіваецца ўнутраны «ладавы» слых. Часам не хапае паслядоўнасці ў тэхнічным развіцці навучэнца — для актывізацыі яму даецца які-небудзь вядомы канцэрт, хоць вучань да яго зусім не гатовы. Да таго ж педагог, нават калі ён і добра ведае рэпертуар (што бывае не заўсёды), звязаны па руках малым нотным матэрыялам бібліятэкі.

Разумею, што недахопы ў рабоце маладога педагога—гэта і недахопы ў рабоце педагога кансерваторыі. Калі нашы студэнты нядрэнна падрыхтаваны як выканаўцы, дык іх педагагічныя веды пакідаюць жадаць лепшага.

Трэба б кіраўніку спецыяльнага класа звяртаць увагу на гэты бок работы на працягу пяці гадоў. Завочнікаў трэба знаёміць з усімі творамі рэпертуару вучылішчаў, бо іменна яны там працуюць. Добра б для завочнікаў увесці педагагічную практыку (у сябе дома яны працуюць без кіраўніцтва педагога, а вы прыязджаеце пост фактум, калі выпраўляць што-небудзь вельмі цяжка); студэнтаў стацыянара трэба пасылаць у старэйшыя класы і вучылішчы — інакш чым жа адрозніваецца кансерваторская педпрактыка ад практыкі студэнтаў вучылішчаў? І наогул, адведзены вучэбным планам час для педпрактыкі (менш як 30 мінут у тыдзень у прысутнасці кіраўніка)—вельмі мізэрны. На мой погляд, наша навуковае студэнцкае таварыства занадта захапляецца гістарычнай тэматыкай, між тым метадычныя канферэнцыі на тэмы педагогікі маглі б прынесці вялікую карысць.

## ДЗЕНЬ ТРЭЦІ

Пабываць у старажытным Полацку я марыў даўно. І выпадак надарыўся. Пазваніла дырэктар Полацкай музычнай школы і папрасіла сустрэцца з педагогамі і вучнямі. Усяго трыццаць мінут спатрэбілася «Запарожцу», каб даехаць да горада.

Дырэктар Ала Віктараўна — маладая, энергічная, гаваркая жанчына—паказвае сваё «дзецішча».

—Вельмі шырокія калідоры,— заўважыў я.

—А ведаеце, хто па іх хадзіў?

— Хто ж?

— Зняволеныя! Так, так! Тут была турма.

— А гэтыя класы, значыць, былі камерамі?

— Правільна. Іх, канечне, не пазнаць.

Заходзім у клас. Спачатку страшнавата (фантазія разыгралася)... Вялікія вокны (іх пашырылі). Стаіць новае піяніна. «Калі-небудзь, — падумаў я, — усе турмы свету пачнуць перарабляць гэтак!»

— У нас вучыцца 500 чалавек, —працягвае дырэктар,— і паступіць у нашу школу цяжка, вялікі конкурс. Сёлета ў класы струнных інструментаў прынялі толькі здольных дзяцей. А раней? Што тут ўтойваць, трэба было «арганізаваць» педагогу-віяланчэлісту стаўку, вось і бралі, хто пад руку трапляўся.

(Вось так і трапляюць у музычны свет выпадковыя людзі, тыя, хто мог бы стаць выдатным інжынерам, літаратарам, хімікам).

Вядома, не шкодзіла б нам, выкладчыкам кансерваторыі, часцей бываць у школах. Але школ у рэспубліцы так многа, што практычна гэта немагчыма. Значыць, выйсце адно — выхоўваць добрых педагогаў вучылішчаў, якія ў многім здолеюць замяніць нас у школе...

Што было некалькі гадоў назад у Наваполацку? Чыстае поле. А сёння? У памяшканні народнага вучылішча разгортвае работу народны універсітэт музычных ведаў. Яго заняткі (на гэты год намечаны 15) вельмі папулярныя. Працуе аддзяленне таварыства «Веды». Вядома, цяжкасцей яшчэ многа, іменна таму сюды часцей трэба прыязджаць. Тым больш, што ад Мінска горад не так далёка — самалёт ляціць 35 мінут...

Станіслаў МАДОРСКІ.



Аляксандра Канстанцінаўна і Міхаіл Пятровіч Ананьіны на здымках у Белавежскай пушчы.

# І ДУМКА, І ПАРЫЎ

АЛЯКСАНДРА І МІХАІЛ АНАНЬІНЫ... Імёны гэтых фотамастакоў шырока вядомыя. Іх даўняя творчая садружнасць прыносіць добры плён. У іх работах гармазічна спалучаюцца гарачы парыў і ўдумлівая дакладнасць. Гэтыя работы — важкі ўклад у фоталетапіс нашага жыцця. Толькі што выйшаў з друку новы фотаальбом А. і М. Ананьіных «Хатынь». Ён сведчыць аб іх чарговым несумненным творчым поспеху.

Міхаіл Ананьін пачынаў у заводскай шматтыражцы «Трансформаторная сталь», у газетах «На смену» і «Уральский рабочий». У 1931 годзе публікуюцца яго першыя здымкі. Рэдакцыі цэнтральных газет і часопісаў хутка заўважаюць, што малады фотарэпарцёр усебакова, глыбока прадумвае тэмы здымкаў, кампазіцыі, што ў яго рэпартажах — жывыя вобразы, змястоўныя пачуцці і настроі. Найбольш поўна як фотарэпарцёр Міхаіл Ананьін раскрыўся ў «Комсомольской правде», дзе працаваў спецкорам, а затым намеснікам загадчыка аддзела ілюстрацыі.

У першыя дні Вялікай Айчыннай вайны Міхаіл Ананьін добраахвотна адпраўляецца на фронт. Аператыўныя здымкі ваеннага карэспандэнта М. Ананьіна з пярэдняга краю адлюстравалі яркія эпізоды ўсенароднай барацьбы з фашыстамі.

У баі пад Вязьмай — цяжкае раненне ў галаву. Кантузія. Палон. Уцёкі. Зноў палон. Зноў уцёкі. Барацьба ў партызанскім атрадзе ў Беларусі. Удзел у многіх баях. Ананьін быў парторгам партызанскага атрада ў трэцяй Мінскай брыгадзе і палітруком роты. Арганізаваў часопіс брыгады «Народны мсціўца». Толькі за паўгода яго партызанская рота, паводле сведчання камандавання, узарвала больш як тры дзесяткі варожых эшалонаў, зрабіла трынаццаць баявых засад і дзевяць дыверсій у нямецка-фашысцкіх гарнізонах і ў акупіраваным Мінску. Лейтэнант М. Ананьін узнагароджаны баявымі ордэнамі і медалямі. У дзвюх засадах на шашы Мінск—Слуцк ён кіраваў баявой групай. У бітве 4 чэрвеня 1944 года за пераправу на рацэ Пціч ля вёскі Зарэчча знішчыў сем фашысцкіх салдат і аднаго афіцэра гітлераўскага карнага атрада. Нават пасля цяжкага ранення не пакінуў поля бою і працягваў змагацца. Затым — барацьба за вяртанне ў строй у шпіталях Рэчыцы і Масквы. Адстаўка са зняццем з веннага ўліку.

І ён вяртаецца да сваёй мірнай прафесіі. Зноў «Комсомольская правда». Потым часопіс «Советский Союз». Стварае яркія фотанарысы і здымкі. У пачатку 1955 года прызначаецца ўласным фотакарэспандэнтам часопіса па Беларускай ССР.

Давалі сябе адчуваць перанесеныя раненні, і ён вымушаны быў перайсці на пазаштатную работу. З 1956 года і па сённяшні дзень сумесна з Аляксандрай Канстанцінаўнай супрацоўнічае з выдавецтвам «Беларусь».

Аляксандра Канстанцінаўна — сапраўдны сааўтар Міхаіла Пятровіча. Яна нярэдка падмяняе мужа ў час здымкаў, задуманых ім. Дапамагае ўдасканальваць майстэрства і дачцы Тамары, якая стала фотакарэспандэнтам АДН. Стварае серыі здымкаў, буклеты і сама — у іх ліку «Па гарадах Беларускай ССР», «Нясвіж», «Ждановічы», «Нарачанскія азёры», «Мінскае мора», «Батанічны сад» і іншыя. А наогул усё цяжэй становіцца аддзяліць зробленае кожным асобна ў гэтай творчай садружнасці. Работы Ананьіных паэтычна перадаюць беларускі пейзаж, выдатныя і памятныя мясціны. Іх здымкі ўзбагачаны смелымі знаходкамі ў змесце, кампазіцыі, колеры. Выразныя ў іх здымкі буйным планам. Цікавыя жанравыя сюжэты.

ДУМАЮ, НЕ ПАМЫЛЮСЯ, сказазаўшы, што чалавечыя якасці М. Ананьіна многае вызначаюць у яго фотамайстэрстве. Перажытае дапамагае паўней адчуць душу, імкненні сучасніка, адлюстроўваць хараство нічым не замянімай роднай прыроды.

А. і М. Ананьіны з шматграннага жыцця нібы выхопліваюць самае характэрнае, самае блізкае нам. У іх работах само жыццё гаворыць мовай сапраўднага мастацтва. Хвалюючае аблічча адноўленых гарадоў Беларусі, прырода любімага краю, падзеі паўсядзённасці трактуюцца як паэтычныя спыненыя імгненні.



Маладажоны. (У дзень вяселля ў калгасе «Расія» Мінскага раёна).

Лаўрэат Ленінскай прэміі пісьменнік С. С. Смірноў адзначыў, што Міхаілу Ананьіну, інваліду Айчыннай вайны, асабліва блізкія і памятныя пачуцці людзей, назаўжды звязаных моцнай салдацкай дружбай. Вось адзін са здымкаў, якія выклікаюць гэтую думку.

...Ахоплены цяжкімі ўспамінамі, прыхінуўся да пакарэжанай каменнай глыбы, адставіўшы ўбок драўляны кастыль, адзін з абаронцаў Брэсцкай крэпасці — былы сержант мінамётнага разліку Уладзімір Фурсаў. Цяпер ён доктар біялагічных навук. Працуе ў Казахскім універсітэце. З ім побач на здымку — былыя абаронцы крэпасці. Кожны па-свойму перажывае ўспаміны. Здымак названы «Гэта не павінна паўтарыцца». Ён атрымаў сусветную вядомасць. Атрымаўшы здымак у падарунак, вядомы мастак Ракуэл Кент напісаў Уладзіміру Фурсаву ў Алма-Ату:

«Мой дарагі сябар! На фатаграфіі, якую мне прыслаў Міхаіл Ананьін, вы паказаны ў траншэі, якую так гераічна абаранялі, калі былі параненыя. Здымак глыбока ўсхваляваў мяне... Ведаючы, колькі вы і вашы таварышы зрабілі ў імя абароны чалавецтва, я з сорамам прызнаю сваё бяссілле выказаць вам сваю бясконцую ўдзячнасць...»

Вось яшчэ адзін здымак на тэму, якая не перастае і ніколі не перастане хваляваць Ананьіных, — «Гора».

...Ля знявечанай снарадамі і асколкамі бомбаў крапасной сцяны толькі што пакладзены букет жывых кветак — сведчанне неўміручай памяці аб загінуўшых. Схілілася ў слязах немаладая жанчына. Гэта Алена Фёдараўна Кузняцова, удава загінуўшага тут камандзіра Савецкай Арміі. Разам з жонкамі іншых камандзіраў знаходзілася ў крэпасці яна ў час баёў, мужна, з гонарам перанесла ўсе жахі фашысцкай няволі, самыя цяжкія выпрабаванні лёсу, захавала і выгадавала дзвюх дачок.



Курган славы (фрагмент).

Тэме Брэста прысвечаны сімвалічныя каляровыя здымкі А. і М. Ананьіных «Вечны агонь», «Холмскія вароты» і іншыя. Глядзіш, напрыклад, здымак «Салют у гонар крэпасці-героя» і разумееш—у сімволіцы салюта выдзелены, падкрэслены і слава загінуўшым, і грозны напамінак агрэсарам аб пастаяннай гатоўнасці савецкага народа адстаяць мір на зямлі.

Фотатворы А. і М. Ананьіных дакументальна, з вялікай мастацкай выразнасцю раскрываюць і прыгажосць мірнай працы. Нельга не прыгадаць, напрыклад, такое іх фотапалатно, як «Гігант беларускай хіміі». Грандыёзнасць беларускай індустрыі пададзена тут выразна, пераканаўча.

ЛЕПШЫМІ ФОТАЗДЫМКАМІ А. і М. Ананьіных пасляваенных гадоў ілюстраваны многія старонкі газет, часопісаў. Гэтымі мастакамі створаны фотакнігі аб Беларусі. За апошняе дзесяцігоддзе масавымі тыражамі разышліся па ўсіх кантынентах паўтары дзесятка фотаальбомаў, складзеных выдавецтвам «Беларусь» з твораў Ананьіных. У іх ліку — «Мінск», «Узняты з руін», «На прасторах Беларусі», «Беларусь». «Крэпасць-герой», «Брэст», «Гомель», «Магілёў», «Віцебск», «Гродна», «Пейзажы Беларусі», «Белавежская пушча». Нядаўнія работы — альбом-даведнік па Мінску, «Спадарожнік турыста», «Курган славы», два альбомы «Хатынь». Падрыхтаваны да здачы новы альбом — «Белавежская пушча». На міжнародных, саюзных і рэспубліканскіх фотавыстаўках фотатворы А. і М. Ананьіных адзначаны сарака дыпломамі, медалямі, каштоўнымі прызамі і грашовымі прэміямі.

Яшчэ адна вялікая творчая ўдача А. і М. Ананьіных: у Маскве на Міжнароднай выстаўцы мастацкай фатаграфіі, прысвечанай 100-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна, за фотанарыс «Хатынь» яны ўдастоены спецыяльнага прызу і ганаровага дыплома. За серыю фотаздымкаў на тэму «Званы Хатыні» М. Ананьіну нядаўна прысвоена званне лаўрэата прэміі Саюза журналістаў СССР. Ня-



Вечар у Хатыні.


Тут ён змагаўся супраць ворагаў у 1914 годзе..

мала сваіх работ падарылі фотамайстры школьным і калгасным музеям, Дзяржаўнаму музею Польшчы, зарубежным дэлегацыям. Вялікая іх дапамога не толькі аматарам, але і фотакарэспандэнтам. З сваёй фотавыстаўкай пабывалі яны і на Урале, дзе пачынаўся жыццёвы і творчы іх шлях.

Нельга не сказаць аб творчай волі фотамайстроў Ананьіных. Даводзіцца часам вельмі нялёгка. У самых непраходных нетрах Белавежскай пушчы, затаіўшыся на многія гадзіны, здымалі яны цецерукоў, якія такуюць, танцы турухтанаў, лясную песню аленя... Каб захаваць на плёнцы жыццё ў гняздзе рэдкіх, асцярожных чорных буслаў, спатрэбілася звыш двух месяцаў. Зазірнуць у гэтае гняздо на векавым дубе можна было толькі з суседняй старой елкі, уладкаваўшы сярод яе галін на шматметровай вышыні патаемны прытулак і забраўшыся ў яго тады, калі дарослых птушак не было ў гняздзе. Затое цяпер усе з вялікай цікавасцю і добрымі пачуццямі разглядаюць фотакарціны «хатніх клопатаў» дарослых чорных буслоў і іх чатырох птушанят.


Гонар Белавежы.

...Лютыя зубры вольнага статку, якія вольна разгульваюць па Белавежскай пушчы. Аберагаючы сваіх цялят, яны прыходзяць у шаленства ад сустрэчы з чалавекам. Матацыклістам і веласіпедыстам не адзін раз даводзілася ратавацца на дрэвах, назіраючы, як спрытна расплюшчваюць іх машыны старажытныя жыхары пушчы. Са статкам зуброў лепш не сустракацца. Здымаць іх буйным планам адважыўся Міхаіл Пятровіч. Супрацоўнікі запаведнай пушчы ўказалі палянку, куды вольны статак наведваецца паласавацца цукровымі буракамі і морквай. Але ўсе яны аднадушна не раілі з'яўляцца чалавеку сярод зуброў. Здымкі ўсё ж адбыліся і ледзь не закончыліся трагічна. На Міхаіла Пятровіча рынуўся самы масціты зубр з тону вагой. Выратаваў імгненны прыпынак волата. Міхаіл Пятровіч неахвотна ўспамінае:

— Я міжволі ўзмахнуў і засланіўся скураной сумкай з фотапрыладамі. Зубр, на здзіўленне ўсім, спыніўся, і я паспеў з ім разысціся да новай, магчыма, сустрэчы...

ХАЦЕЛАСЯ СКАЗАЦЬ аб галоўным у жыцці і творчасці Ананьіных. Можа, нешта выпала з майго поля зроку. У заключэнне ж падкрэслю: іх творы дапамагаюць лепш разумець прыгажосць нашай рэчаіснасці, мацней любіць яе.

М. МАРОЗАЎ.


У санаторыі «Нарач».

## КІНО. АЙБАЛІТЫ ЖЫВУЦЬ ПОБАЧ

ДРАМАТУРГІЧНЫЯ сітуацыі, смешныя і трагічныя, вострыя, нечаканыя, хвалюючыя ўзнікаюць у фільме «Увага, чарапаха!» усяго толькі з-за маленькай нязграбнай чарапашкі, якая трапіла ў «жывы куток» першакласнікаў. Яна — той самы пробны камень, на якім правяраюцца чалавечыя якасці герояў карціны.

У некалькіх словах — гэта фільм пра тое, як дзеці і іх верныя сябры дарослыя не далі загінуць чарапашцы, рызыкуючы калі не жыццём, дык, прынамсі, здароўем. Гэта можа здацца сентыментальным і нават дзівакаватым. Але калі дадаць, што героі фільма зрабілі ўсё, каб не перамаглі жорсткасць і гвалт, то гэта ўжо іншая размова...

Аднак гаворка пойдзе пра іншы фільм. Кароткаметражны дакументальны фільм «Мой тата Айбаліт». Я пачала з кінастужкі «Увага, чарапаха!» перш за ўсё таму, што яны вельмі блізкія па задуме, светаадчуванні аўтараў, па пастаўленых праблемах.

«Мой тата Айбаліт» — адна з нямногіх спроб беларускіх кінематаграфістаў стварыць дакументальную стужку для дзяцей. Канечне, як усякі добры фільм, ён і для дарослых таксама.

Вось змест карціны.

Маленькі хлопчык, бацька якога — ветэрынарны ўрач, вельмі любіць жывёл. Ён іх так любіць, што нават разумее іх мову. Карова гаворыць — нічога незвычайнага! Ён ведае, што і куры гавораць, і коні, і сабакі... Адсюль, відаць, і ішлі стваральнікі фільма. І жывёлы на экране сапраўды загаварылі.

Тое, што жывёлы гавораць, — у кіно не навіна, але, я паўтараю, фільм дакументальны. І тут павінна арганічна спалучацца верагоднасць дакументальнага кадра з фантазіяй хлапчука. Што і казаць, задача не лёгкая, і творчая дзёрзкасць заслугоўвае ўвагі, асабліва, калі ўлічыць, што стваральнікі фільма — людзі маладыя. Гэта ўсяго толькі першая самастойная дакументальная работа сцэнарыста Ільі Шахрая і другая — рэжысёра Уладзіміра Дзвінскага і апаратара Анатоля Алая. Але менавіта таму, што яны маладыя і смелыя, ім хочацца выказаць асабліва высокія патрабаванні.

Дык вось, цікавую задуму ажыццявіць да канца ім пакуль што не ўдалося. Яны не дасягнулі неабходнага арганічнага спалучэння выяўленчага і гукавога радоў, і гэта перашкаджае ўспрыняццю фільма. Хаця песенька кампазітара К. Акімава на словы юнай паэтэсы Тані Акімавай, бадай, нядрэнна ўплятаецца ў канву фільма, надае яму завершанасць, працуе на галоўную думку карціны.

Зняты фільм крыху аднастайна, яму не хапае яркіх метафарычных кадраў, якія давалі б вобразнае рашэнне тэмы. Ствараецца ўражанне, што недзе не хапіла фантазіі, а можа і прафесіяналізму, які, безумоўна, прыйдзе з гадамі да маладых аўтараў — на пятым, сёмым, а можа дзесятым фільме.

Аўтары фільма не ставілі перад сабой задачы паказаць нейкае незвычайнае дзіця. Але хлопчык, сын ветэрынарнага ўрача саўгаса «Рассвет» Мінскага раёна Мікалая Славашэвіча — пяцігадовы Ігар, умее бачыць свет прыгожым і цудоўным. У яго грудзях б'ецца вялікае, добрае сэрца.

У фільме ёсць эпізод, калі бацька Ігара аказвае дапамогу цяляці, якое параніла нагу. Цяляці баліць. Яно ляжыць, а вакол весяляцца яго бесклапотныя «браты». Яго вялікія маркотныя вочы напоўнены слязьмі. І вочы хлапчука таксама. Ён цярэбіць тату — хутчэй, хутчэй...

І вось мы ўжо бачым, як цялё ўстала, зрабіла некалькі крокаў, павесялела, зірнула вакол і пабегла. І разам з ім бяжыць шчаслівы хлопчык. Ён не іграе перад апаратам — не! У пяць гадоў такую радасць і не сыграеш. Ён шчаслівы! Шчаслівы!..

Калі я глядзела гэтыя кадры, то міжволі ўспомніла расказ пра хлопчыка, якому за маленькую здраду абяцалі шмат прыгожых касцюмаў і цукерак.

— Гэта не галоўнае, — цвёрда сказаў хлопчык.

— А што ж галоўнае? — нецярпліва дапытваліся ў яго спакушальнікі.

— Галоўнае, — спакойна адказаў ён, — сэрца, што б'ецца пад адзеннем.

А калі ў чалавека вялікае сэрца, ён здольны зрабіць свет хоць крышачку лепшым.

Ёсць у экране, між іншым, як і ва ўсім мастацтве, велізарная цудадзейная сіла. Хто з дзяцей не марыў стаць такім, як Чапаеў або вясёлы і адважны Буба Касторскі з «Няўлоўных мсціўцаў». Хто не захапляўся бясстрашным Гаўрошам або смешным і наіўным Сямёнам Сямёнавічам з «Брыльянтавай рукі». А якое душэўнае трапятанне, якую неаслабную цікавасць выклікае ў хлапчукоў дакументальная стужка «Людзі зямлі і неба» пра выдатнага лётчыка-выпрабавальніка!

А калі глядзіш мастацкі фільм «Увага, чарапаха!» або нават маленькую дакументальную карціну «Мой тата Айбаліт», міжволі думаеш, што можа не было б у свой час шумнага працэсу над хуліганамі, якія забілі лебедзя, калі б тыя паглядзелі гэтыя і падобныя фільмы. Канечне, наіўна думаць, што толькі фільмы могуць вучыць і перавыхоўваць. Не, але і фільмы таксама!

Дакументальная стужка «Мой тата Айбаліт!», вядома, знойдзе свайго гледача. Хацелася б, каб яго паглядзела як мага больш дзяцей і дарослых.

Ірына ПІСЬМЕННАЯ.

## ЭКЗАМЕН ТРЫМАЮЦЬ... ЛЯЛЬКІ

Пачну з фінала. У экзаменацыйным білеце тры пытанні: практыкаванні і эцюды з лялькамі; народная батлейка; спектаклі тэатра імя Янкі Купалы ў ваенныя гады. На пытанні адказвае выкладчыца рускай мовы і літаратуры Камянецкай сярэдняй школы Мая Марчук. Не, яна не здае экзаменаў у тэатральны інстытут. Мая Канстанцінаўна — удзельніца рэспубліканскага семінара кіраўнікоў самадзейных лялечных калектываў, выпускніца завочнай двухгадовай тэатральнай студыі Брэсцкага абласнога Дома народнай творчасці (лялечнае аддзяленне)...

Можна многа расказваць пра ўлюбёнасць у лялечны тэатр выпускнікоў гэтай студыі. Вось Тамара Паўлаўна Скакун і яе муж Аляксандр Якаўлевіч. Абодва працуюць у Кобрынскай спецыяльнай школе. Іх гурток даўно можна лічыць лялечным тэатрам. Бо добрыя тут лялькі, дасканалае мастацкае і музычнае афармленне спектакляў, і рэпертуар складаны. Ставілі, напрыклад, «Васілісу Прыгожую» і іншыя спектаклі, «Васіліса» паказвалася па Брэсцкім тэлебачанні, у школах і дзіцячых садах раёна. Фактычна ў Кобрынскай спецшколе сёння два лялечныя тэатры. З малодшымі займаецца Тамара Паўлаўна, а са старэйшымі вучнямі — Аляксандр Якаўлевіч. Зараз абодва калектывы рыхтуюць новыя спектаклі — «Кошкін дом» і «Беласнежка і сем гномаў».

А бывае і так, што лялькам даводзіцца пераадольваць сур'ёзныя перашкоды і непрыемнасці. Не ўпадабаў пацешных, вясёлых герояў казак адзін дзеяч культуры ў Маларыцкім раёне. Паедуць энтузіясты-лялечнікі з канцэртам агітбрыгады ў калгас, раскажуць пра добрых людзей, высмеюць розных абібокаў ды п'яніц. Пасля іх выступленняў ляцяць у райцэнтр скаргі. Клопаты, турботы... Гурток лялечнікаў ліквідавалі. Але кіраўнік гуртка Ганна Барысаўна Ерусалімчык не здалася. Забаранілі гурток пры раённым Доме культуры, і неўзабаве пачаў працаваць самадзейны лялечны тэатр у Доме піянераў. Рыхтуе ён да пастаноўкі «Прынцэсу Кляксу». Зацятага ж адміністратара ад культуры з работы звольнілі. І Ганну Барысаўну зноў запрашаюць у раённы Дом культуры.

Завочную двухгадовую тэатральную студыю Брэсцкага Дома народнай творчасці закончыла дзесяць лялечнікаў. Нялёгка было арганізаваць яе работу. Не было праграм, і метадыст Тамара Пятніцкая сама складала іх. Студыйцы праслухалі цыкл лекцый па гісторыі беларускага тэатра, сцэнічнай мове, асновах рэжысёрскай тэхнікі, мастацкім і музычным афармленні лялечнага спектакля. Праводзіліся практычныя заняткі, як, скажам, інсцэніраваць апавяданне, байку, вывучалі тэхніку ваджэння лялек, пісалі рэфераты.... І адказы, якія слухала камісія на чале з дырэктарам Рэспубліканскага Дома народнай творчасці Г. Талчынскай, паказалі, што студыйцы многаму навучыліся, многае ўмеюць рабіць.

У рэспубліцы сёння працуюць каля 50-ці самадзейных лялечных гурткоў. Для іх кіраўнікоў Рэспубліканскі і абласныя дамы народнай творчасці наладжваюць семінары. Цікава прайшлі заняткі апошняга семінара, які днямі закончыў сваю работу ў Мінску. 20 кіраўнікоў самадзейных лялечных калектываў, у тым ліку і выпускнікі Брэсцкай тэатральнай студыі, слухалі вядучых майстроў сцэны Рэспубліканскага тэатра лялек. Галоўны мастак тэатра Л. Быкаў правёў заняткі на тэмы: «Лялькі, іх канструкцыя і знешняя выразнасць», «Сучаснае прыкладное мастацтва і выяўленчыя формы ў лялечным тэатры», «Шырмы і дэкарацыі». Акцёр тэатра В. Уласаў вучыў тэхніцы ваджэння лялек, рэжысёр В. Казлова правяла адкрытую рэпетыцыю. А галоўны рэжысёр тэатра А. Ляляўскі расказаў пра лепшыя спектаклі савецкіх і зарубежных тэатраў лялек. Удзельнікі семінара пабывалі на двух спектаклях тэатра—«Казцы пра маленькага Капліка» і «Васілісе Прыгожай».

Я. ДАНСКАЯ.



Мал. Я. ГОЛЬБЫ.

**БУДЗЬЦЕ ЗНАЁМЫ:**

Алесь ДЗЯТЛАЎ



# БЕЛЫ ТУМАН НА ПОПЛАВЕ

АПАВЯДАННЕ

**Алесь Дзятлаў нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Туркі Бабруйскага раёна. Пасля заканчэння сярэдняй школы паступіў на аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна, які закончыў у 1959 годзе. Працаваў загадчыкам аддзела Глыбоцкай раённай газеты. Зараз працуе загадчыкам аддзела сельскай моладзі ў рэдакцыі газеты «Чырвоная змена».**

**«Белы туман на поплаве» — першае выступленне маладога празаіка ў рэспубліканскім друку.**

У ПЕЧЫ траскуча зыркае полымя, кудзелістымі тоўстымі пасмамі гладзіць закурэлыя чалеснікі, спахапліва выгінаецца і, нячутна зрываючыся, знікае дзесьці ў коміне. Бярозавыя палянкі, якія шчэ з вечара бабка Наста пакідала ў печ, угарэліся нязвычна хутка, і Наста ад такой неспадзеўкі затупала барджэй, зашоргала гаршкамі, місамі. Намыла леташняй драбнейшай картоплі ў вялікі паліваны чыгун,—для свіней, узняла яго на прыпечак і вілачнікам скрыгатліва засунула ў печ, узбоч дроў. Потым прысела на нізенькі ўслончык і пачала шкрэбці бульбу.

На чыстай палове бабчынай хаты, за невысокай, толькі пад бэльку, адгародкай спіць Генка, сын старэйшай Наставай дачкі Анюты. Ён прыехаў учора позна, прытаміўся ў дарозе, і Наста не стала даймаць яго роспытамі: хай кладзецца спаць.

І з гэтае прычыны Наста шчыравала ля печы. Шчэ на досвітку падаіла карову, выпусціла на вуліцу, дзе з таго канца вёскі займаў гурт кульгавы пастух Аноська.

У сенцах нехта грукануў клямчынай, прасунуўся да дзвярэй, і на парог ступіла суседка Марыля, шчэ маладая гожая маладзіца. Не было, мусіць, такой раніцы, каб яна не адведала Насту: адно —суседкі, ды і памянціць языком была вялікая ахвотніца Марыля.

Трохі не пашчасціла ў замужжы Марылі: узяў яе п'яніца. Двое дзяцей нажыла, дом паставіла. А Пятро яе, як піў хлопцам, так і п'е. З пачатку замужжа Марыля цягала яго, недалужнага да хаты, каб дзе, барані божа, у канаве не застудзіўся. А потым звыклася, махнула на ўсё рукой, нат сварыцца перастала: жыві ты, як жывеш. Пятро, як цвярозы, дык работнік залаты. А п'яны, нібы хто падмяняе чалавека.

Марыля звычна ўселася на шырокую табурэціну і пачала выкладаць усе няхітрыя вясковыя навіны.

— Вот Насця, людзі е, і не падумаеш нат. Прыехала заўчора Базылішчына дачка, ну, каторая ў горадзе за касірку вучыцца. Дык з мацераю буракі палоць выперлася. Удзела етыя самыя плаўнікі, у каторых загараюць, ды і поле сабе. Ну, і насмяяліся ўжэ бабы тамака. А ёй — дак ета як і не касаецца. От жа гавораць: ледзь вылюднее, дак рознае выкідвае.

Бабка ўжо ладна наабірала бульбы, а Марыля ўсё менціла языком.

— Ой, што ета я расселася, як на вяселлі,—спахапілася Марыля. — Ета ж я, Насця, па дзелу. Мо б пазычыла мне якую лыжку соды: блінцы ўсчыніла, а як на тое ліха—сода выйшла. Ета ж і на работу трэба бегці: мужчыны стог кідаць будуць, ужэ і адонак намасцілі, а мы зграбаць. Можа, што і зараблю. Цяперака ж аж тры рублі выходзіць на дзень.

Наста зборліва сыпнула Марылі соды. Суседка віхлянулася, грукнула дзвярыма, мільганула каля акна.

Бабка прыставіла чыгунок з бульбай у печ, абмыла рукі. Потым сцягнула з крайка печы дзяжу, у якой духатліва пыхкала, падымалася, нібы жывое, цеста. Узбіла лыжкай пахкае цеста, узяла на язык—гожыя будуць блінцы! Паставіла прад полымем дзве цагліны, на іх—скавародкі: хай трохі падагрэюцца, лепш будзе блінец адставаць, не прыгарыць.

Генка прачнуўся і ляжаў ужо мо з паўгадзіны. За тонкай адгародкай яму чуліся рупныя бабчыны ўвіханні. І ўвачавідкі ўявіў, як бабка суне ў печ вілачнікам чыгун, асцярожна ставіць для сябе, меншы, як яна, аберуч ухапіўшы дзяжу, цяжка саступае з печы спачатку на ўслончык потым на падлогу. І як ходзіць па хаце, увішна, спагадна, каб не разбудзіць яго. А як хораша спіцца ў бабчынай хаце. Старэнькая, але чыстая ў сярэдзіне, з двума акенцамі на вуліцу і двума на двор. У хаце пахне свежым хлебам, кужэльнымі ручнікамі і прывялымі травамі, што збірае і сушыць Наста цэлае лета, ад розных хвароб. Высушыць, звяжа ў маленькі венічак і павесіць за бажніцу, у кут.

Генку не хацелася ўставаць. Здаецца, вось так і ляжаў бы на мяккім сяннічку, слухаў бабчыну рупнасць, стук ёмкі, слабы трэск дроў у печы. І ад усяго гэтага разлівалася ў целе ціхмяная спакойнасць, і не хацелася рушыць гэтую дзіўную суладнасць. Яму стала да шчымлівасці хораша; такой бесклапотнасці, вольнасці хлапец даўнавата ў сабе не чуў.

Наста нечага выйшла ў сенцы, пакінуўшы на якую хвіліну адчыненымі дзверы. У хату пацягнула свежасцю, пахам блінцоў. Бабка зноў прачыніла дзверы, і было чутна, як яна падмазвае тлушчам скавародку, як сквірчыць сала.

Генку шаснаццаць год, сёлета ён скончыў дзевяты клас. Яшчэ там, у сваім гарадку, ён шчымліва-радасна чакаў тае хвіліны, калі раніцою, узяўшы з сабою вуды, пройдзе басанож халаднаватаю ўбітаю сцяжынкаю паўз бабчыну бульбу, а ў канцы поля, дзе пачынаецца прырэчная сенажаць, абросіць ногі, ажно да пякучасці, сівата-зіхатлівая ў ранішнім сонцы маладая атава. Тут, на ўзмежку, ён пакладзе на дол свае вуды, падкасае вышэй калена штаны, каб не макрэлі калошы. Цыбата падымаючы ногі, прабяжыць з прыскокам і зноў пойдзе, нізка шоргаючы пяткамі. Між пальцаў будуць трапляць пушыстыя галоўкі малачаю, шархатыя кветкі мядункі. І яны шчэ доўга будуць трымацца, покуль Генка, паставіўшы нагу на купіну, не выкіне цвёрдыя малачаевыя пупышкі-гузічкі на таўставатай кволай трубцы-сцяблінe.

Бліжэй да рачулкі сенажаць куп'янее, дзе-нідзе мо шчэ летась ці пазалетась каровы павыбівалі траву, і тады нага трапляе на цеплаваты тарфяны лапік.

Рачулку шчыльна абступілі ніцыя лазнякі, кусты алешніку, дзе-нідзе раскашоўваецца па берагах дзядоўнік. Рака нібы хоча ўцячы ад гэтых суседзяў, віецца, бярэ то ўправа, то крута паварочвае ўлева, а то і адбягаецца назад, але ніяк не можа ўцячы.

Учуўшы глухі плёскат і пах аеру, Генка ўжо не можа трываць і бяжком прадзіраецца скрозь кусты. Недзе тут вялікай рыжаватай рыбінаю легла пасярод ракі адмеліна; туды Генка спачатку перакіне вуды, а потым пяройдзе сам...

За адгародкай сквірчыць сала: бабка пячэ яешню. Узбоч стала, на чыстым ручнічку, стынуць блінцы. О, якія яны смачныя: трошкі кіславатыя, мяккія; там дзе ад цяпла ўзняўся пухір, ледзь-ледзь прыгарэлы кружок. А побач поўная міса паронак. гарачых, гладкіх, нібы аблупленыя яйкі, ад місы роўна ідзе пара, ажно да столі. Хораша ў бабкі!

Генка выскоквае з-пад коўдры, усцягвае вузкія штонікі і бяжыць на двор мыцца. Вада халодная, толькі са студні...

Генка есць, а Наста сядзіць на ўслоне побач, глядзіць на ўнука. Белая хусцінка ў маленькіх чорных кропельках, нібы абсыпаная макам, рагамі завязана пад падбародкам; сівы доўгі касмыль выбіўся з гладка прычэсаных валасоў, бабка двума пальцамі засоўвае яго назад, пад хустку. Голас у Насты ціхі, пявучы.

— Еш, унучак, еш. Во, бяры, еты крайні блінец, паджараны. І картопелька добранькая, маладзенькая. Як зацвіце, то і капаць можна. А ў мяне градка ёсека, за пограбам, у зацішку. Караспелачку я тамака саджу. Сённека я і паспрабувала: пад каліўцам шчэ дробненькая, але ладнавата.

Бабка маўчыць мо з паўхвіліны, а потым пытае:

— Як тамака Анюта? Ці ёсць у вас картопля? Малако хоць бярэце дзе? А як Сцяпан?

Сцяпан—гэта Генкаў бацька. Ён колькі разоў клікаў Насту да сябе жыць. упрошваў, але не блізка тая. Звычайна бабка ціха гаварыла:

«Тут я, дзеткі мае, радзілася, тут мяне і пахаваеце. Ну, што я буду рабіць у етым вашым горадзе... Хатка, дзякуй богу, шчэ ліпіць, на мой век хопіць».

Ад вайны Наста жыве адна, без мужыка. Як пайшоў яе Ахрэм у сорак чацвёртым, так і не вярнуўся. Паставіла на ногі старэйшую Анюту, узгадавала меншага—Міколу. Той таксама адбіўся ад матчынай хаты, робіць на цаліне. Але рада Наста, што дзеці яе пры дзеле, што не сорамна ёй за іх перад людзьмі.

Паснедаўшы, Генка агледзеў бабчын падворак, прайшоў па вішняку. Два рады вішань ад вуліцы стаялі шчыльна, як сцяна. Пад імі было халаднавата і свежа, нібы ў асінніку. А далей, углыб сотак, на ўзмежку, вішні раслі ў адзін рад. Усё у бабчыным гародзе расло, раскашоўвалася, буяла,—і любата глядзець на гэты куточак уробленай зямлі. Потым Генка выйшаў на вуліцу, прысеў на нізенькую, крыху цеплаватую ад сонца, лаўку. Перад лаўкай выбіта ладная лапечына зямлі, засмечаная шалупіннем ад семак, вішнёвымі костачкамі.

Сонца высягнула над вільчыкам выносістай ліпы, што расце насупраць бабчынай хаты, і на лаўцы стала цёпла, ажно душна. Пахла смалою ад штыкетніка, пылам вуліцы і ўсё гэта перасільваў моцны дух выспелай збажыны, якую і касілі, і звозілі, нат аббівалі дзе-нідзе на дварах.

Праз вуліцу адзіным акенцам супілася хата Саўкі Хвашча, якога і стары, і малы за вочы звалі Хедзікам. Прыляпілася да яго гэтае прозвішча так шчытна, што і яго сыноў, і ўнукаў, і праўнукаў інакш не клічуць, як Хедзікамі. Шчэ як быў маладым Хвошч, то вельмі спрытны быў у хадзьбе. Танканогі, высушаны, як жэрдка, ён, здавалася, ніколі не ведаў стомы. Ідзе і дагэтуль такая пагалоска, быдта як служыў Саўка ў салдатах, шчэ да рэвалюцыі, адсюль вёрст за шэсцьдзесят, то адпрошваўся ў свайго начальніка і за адну ноч прыбягаў да сваёй Гэлі, што-кольвечы рабіў па гаспадарцы і на золку выпраўляўся ў зваротны шлях. Вось з таго і пайшло—Хедзік ды Хедзік. Як бы і прозвішча змяніў чалавек.

Было ў Хедзіка два сыны, даўно пайшлі на свой хлеб. Засталася з ім дачка, да якой быў прыбіўся прымак з гэтае ж вёскі, нарадзіла сына. Дый ці ўжыве добры чалавек з Хедзікам!

Старасць, а з ёю і немач прыйшлі да Хедзіка. Яшчэ больш высах чалавек, змізарнеў: ці то ад злосці, ці то ад якой хваробы.

Як устане досвіткам Хедзік, агледзіць свой двор, пройдзе па сотках, а затым павісне на штыкецінах сваіх веснічак і, як той сыч, варочае галавою. Шыя ў Хедзіка доўгая, худая, нібы ў аскубенага гусака; яна вылазіла з каўняра рудой сарочкі, як з ашыйніка. Жоўтыя, танклявыя, знізу рудыя, падсмажаныя дымам вусы, ну, як усё роўна які жартаўнік прыстыркнуў яму пад нос два ячменныя, на выспеце, каласякі. На Хедзікавых каленях бялеюцца дзве няроўныя лапечыны, і здалёк можна было падумаць, што стары недзе поўзаў у пыле на карачках. Лыткі былі прутка абматаны белымі аборкамі да самага калена, а на нагах ладна, і неяк нат па-фартэцку сядзелі новенькія лапці з ліпавай кары. У гэтым убранстве Хедзік быў дужа падобны на цыбатага жорава.

Хвошч угледзеў хлопца, адставіў убок свае веснічкі і наўскасяк перасек вуліцу. Сеў на край лаўкі, выцяг скураны капшук. скруціў тоненькую цыгарэціну.

— Дык ты, мусе, Анюцін будзеш Генусь. Глядзі, як вымахаў. Колісь, як прыязджаў, малы быў. А цяперака, каб узнаць, трэ прыгледзецца.

Хедзік зацягнуўся, цыгарэтка зазырчэла.

— Ты вучышся ці ўжэ навуку сваю кончыў?— зноў папытаў Саўка.

— Вучуся, у дзесяты перайшоў.

— Ыгы,—не то здзіўлены, не то сцвярджаючы, што ўсё зразумеў,—гыкнуў Хедзік.—Узрослы значыцца.

Хедзік яшчэ раз пацягнуў сваю самакрутку, тоненькая, яна меншала хутка, звычным рухам разамкнуў пальцы і недакурак упаў на зямлю. Паставіў на яго лапаць, нібы добры кошык, каб загас. Устаў з лаўкі, памкнуўся быў пайсці. Але нешта раздумаў, павярнуўся да Генкі:

— Можа б ты мне, хлопча, памог кулі закінуць на вышкі ў хляве. Не ўзграбуся я туды, у падстрэшша.

Стары з крэктам уздымаў на вілах цяжкі сноп і, высільваючыся, ледзь-ледзь чапляў яго за нізкую бэльку. Генка спрытна браў сноп аберуч і, як шулу, цёг да самага запера, роўна клаў адзін на аднаго.

Хедзік падаў апошні сноп, узяў з кута сваю качарэжку і, абнямоглы, вышаргаў на двор. Генка спрытна каўзануўся па саломе зверху.

— Во-от, хлопча,—Хедзік цяжка дыхаў, тонкія ногі дробна дрыжэлі,—раньша я етыя кулі закінуў бы туды з зямлі. А цяперака...

На падворак убег Хедзікаў унук Костусь, малы год шасці. Белая ў палоску паркалёвая сарочка загорнута як не да носа, далонямі і локцямі хлапчо прыціскала нешта да сябе.

— Дзед, во, зайцанё: малое, а ўжэ бегае. Тата чуць спаймаў, у жыце. З-пад канбайна выскацыла.

Косцік быў так узрушаны гэтаю падзеяй, што глытаў словы, заікаўся. Хедзік, як учуў пра зайчанё, перасмыкнуў губамі, павярнуў свой гарбаты нос, упяў у малога цяжкі погляд. Косцік адразу прыціх, зачмыхаў носам, разгублена павярнуў галаву ўбок. Яго нібыта ўгінаў гэты позірк дзеда. Хедзік працягнуў сваю кашчаватую сухую руку і пацягнуў за хлапечую сарочку. Шэры камячок споўз на траву і прыціснуўся да Косцікавых ног.

— Усялякую брыдоту цягнеш сюды. А ета — балаўства. Тока кармі. — Тата спаймаў, — з нейкай злосцю передражніў Хедзік... — Тата мне...

Хвошч павярнуўся і злосны, надуты, пасунуўся некуды на агарод.

— Праўда харошы зайцык. І такі малюсенькі, як коцік.

Хлапчанё адразу забылася на дзеда і даверліва дзялілася з Генкам сваёй радасцю.

— А дзе ж ты паселіш яго? — пацікавіўся Генка.

## ГОСЦІ МІНСКА

З вялікім поспехам выступаў у Мінску славуты хор хлопчыкаў з Познані пад мастацкім кіраўніцтвам Ежы Курчэўскага. Праграма музычных вечароў была вельмі разнастайная — ад старадаўніх французскіх песень XIII стагоддзя і твораў польскага і італьянскага Адраджэння да старонак вакальнай літаратуры сучасных кампазітараў; манументальныя хоры Баха змяняліся песнямі сённяшняга дня, нумары з вядомых опер — творамі, напісанымі польскімі аўтарамі спецыяльна для «словікаў з Познані». Мінчане горача апладзіравалі юным спевакам, якія прадэманстравалі высокую музычную культуру і шчодрае багацце свайго мастацкага густу пры выкананні самых складаных кампазіцый і папулярных мелодый.

На здымку — выступленне Познанскага хору хлопчыкаў на філарманічнай сцэне ў Мінску.



Некалькі дзён на сцэне Беларускай дзяржаўнай філармоніі выступаў Ленінградскі эстрадны калектыў пад кіраўніцтвам заслужанага артыста РСФСР П. Мураўскага. У праграме «Ленінградскі альбом» гучалі музыка і песні савецкіх і зарубежных кампазітараў, выконваліся танцы, цыркавыя нумары. Артысты выступілі перад гледачамі Магілёва, Бабруйска, Віцебска, Полацка, Оршы. Наперадзе гастролі ў Гомелі.

На здымку — П. Мураўскі.

Фота Ул. КРУКА.

# «ЛОТАС» — СІМВАЛ ЯДНАННЯ ЛІТАРАТУРЫ ДВУХ КАНТЫНЕНТАЎ

Афра-азіяцкі пісьменніцкі рух сёння стаў бясспрэчным фактарам сусветнага літаратурнага працэсу. Важнейшай з'явай у развіцці маладых прагрэсіўных сіл двух кантынентаў было стварэнне міжнароднага часопіса «Лотас», які пачаў выходзіць па рашэнні Бейруцкай канферэнцыі пісьменнікаў краін Азіі і Афрыкі ў 1967 годзе.

«Лотас» — не проста часопіс, афіцыяльны друкаваны орган Асацыяцыі. Гэта унікальнае, упершыню ў гісторыі створанае літаратурна-мастацкае перыядычнае выданне, міжнародная рэдкалегія якога прадстаўлена віднымі літаратарамі з 12 краін Азіі і Афрыкі. Функцыі галоўнага рэдактара ажыццяўляе Генеральны сакратар Асацыяцыі, вядомы егіпецкі пісьменнік і грамадскі дзеяч Юсеф эль-Сібаі. Савецкі Саюз прадстаўлен у рэдкалегіі вядомым паэтам і драматургам, галоўным рэдактарам часопіса «Огонек» Анатолем Сафронавым, намеснікам старшыні Савецкага Камітэта па сувязях з пісьменнікамі краін Азіі і Афрыкі.

Часопіс выдаецца на трох мовах — англійскай, французскай і арабскай — чатыры разы ў год. Па прапанове пісьменнікаў Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі выданні часопіса на англійскай і французскай мовах друкуюцца ў Берліне. На арабскай мове — у Каіры.

Відныя прагрэсіўныя пісьменнікі і паэты, філосафы і крытыкі, эсеісты і літаратуразнаўцы, знаўцы старажытнасці і відныя археолагі актыўна супрацоўнічаюць з часопісам. У выдадзеных нумарах апублікаваны творы пісьменнікаў з 42 краін.

Побач з мастацкімі творамі вялікае месца ў часопісе аддадзена вострай публіцыстыцы, артыкулам, якія выкрываюць варожую прагрэсіўным народам Азіі і Афрыкі ідэалогію, узнімаецца нямала сур'ёзных праблемных пытанняў развіцця афра-азіяцкіх літаратур.

У дадатку друкуюцца дакументы, рэзалюцыі і дэкларацыі Асацыяцыі пісьменнікаў краін Азіі і Афрыкі. Часопіс ілюструецца арабскімі мастакамі. На спецыяльных маляўнічых укладках асаблівую ўвагу прыцягваюць старажытныя рытуальныя маскі, узоры старажытнага ісламскага мастацтва, старажытныя індыйскія мініяцюры і многія помнікі старажытнай культуры афра-азіяцкіх народаў.

У часопісе супрацоўнічаюць і многія савецкія аўтары — Зульфія, Мікалай Ціханаў, Берды Кербабаеў, Грыгол Абашыдзе, Яраслаў Смелякоў, Мустай Карым, Данііл Гранін, Расул Гамзатаў, Юрый Нагібін, Давід Кугульцінаў, Каміль Яшэн і іншыя.

Асацыяцыяй пісьменнікаў краін Азіі і Афрыкі ўстаноўлена прэмія «Лотас» за лепшыя творы афра-азіяцкіх пісьменнікаў, якія адзначаны высокім гуманізмам і адлюстроўваюць падзеі нашага часу, чотка вызначаюць пазіцыі барацьбы супраць агрэсіі імперыялізму і расавай дыскрымінацыі.

Аб'яўлены першыя лаўрэаты прэміі «Лотас». Сярод іх адзін з буйнейшых в'етнамскіх пісьменнікаў То Хоай. Яшчэ ў маладосці ён звязаў свой лёс з вызваленчым рухам народа і да гэтага часу актыўны ўдзельнік барацьбы свайго народа супраць амерыканскай агрэсіі.

То Хоай — аўтар раду буйных літаратурных твораў, сярод якіх раманы «Дзесяць гадоў» (1958), «Заходні край» (1968), «Хоант Ван Тхі» (1969), казак і апавяданняў для дзяцей. З асаблівай паўнатой раскрыўся публіцыстычны талент То Хоая.

Лаўрэат прэміі і вядомы паўднёваафрыканскі пісьменнік Алекс Ла Гума, ураджэнец «каляровых» кварталаў Кейптаўна, сын Джымі Ла Гумы, аднаго з першых паўднёваафрыканскіх камуністаў, Алекс ужо ў раннім юнацтве ўключыўся ў вызваленчую барацьбу. З пачатку пяцідзесятых гадоў ён — актыўны ўдзельнік народных выступленняў супраць расізму, аўтар гнеўных публіцыстычных артыкулаў. Не раз Ла Гума падвяргаўся рэпрэсіям, многа месяцаў правёў у турмах, а ў 1962 годзе яго прыгаварылі да 5 гадоў хатняга арышту.

Усе яго творы: тры аповесці «Блуканне ў начы» (1962), «І нітка ў тры скручаная» (1964), «Каменная краіна» (1967), а таксама цыкл апавяданняў — атрымалі шырокае прызнанне.

Пісьменніку ўдалося вырвацца з лап расісцкага ўрада, ён зноў актыўна акунуўся ў грамадскую дзейнасць.

Лаўрэатам «Лотаса» стаў і бліскучы палесцінскі паэт Супраціўлення, актыўны барацьбіт за вызваленне сваёй краіны ад ізраільскіх захопнікаў Махмуд Дэрвіш. Яго пяру належаць чатыры зборнікі вершаў: «Лісце аліў» (1964), «Палесцінскі закаханы» (1966), «Канец ночы» (1967) і «Салаўі спяваюць у Галілеі» (1970). Вершы, створаныя Дэрвішам у пасляваенныя гады, вызначаюцца вялікай глыбінёй паэтычных вобразаў, высокай грамадзянскасцю. За свае выступленні не раз падвяргаўся праследаванням, адбываў турэмнае зняволенне.

Відны індыйскі паэт Харыванш Рай Бачан закончыў Алахабадскі і Кембрыджскі універсітэты, атрымаў вучоную ступень доктара філалогіі. У 1932 годзе выйшла ў свет першая кніга вершаў Бачана «Твая гірлянда». Літаратурную вядомасць яму прынеслі зборнікі «Прыстанак ап'янення» і «Голад у Бенгаліі» (1943).

Бачан многа займаўся перакладамі: пераклаў на хіндзі Амара Хайяма, «Атэла» і «Макбет» Шэкспіра і выпусціў анталогію рускай паэзіі, за якую яму была прысуджана прэмія Неру.

Выдатны ангольскі паэт і палітычны дзеяч Антоніо Агасціньё Нета — адзін з заснавальнікаў першых культурна-асветных арганізацый у краіне, вядомай патрыятычнай арганізацыі «Ідзём адкрываць Анголу» (1948).

Паэзія Агасціньё Нета займае віднае месца ў ангольскай літаратуры.

Сярод савецкіх пісьменнікаў званне лаўрэата прысуджана выдатнай паэтэсе Узбекістана Зульфіі.

Стварэнне і выпуск часопіса «Лотас», які прадстаўляе культуру і літаратуру амаль дзвюх трэціх чалавецтва — вялікая і важная падзея ў міжнародным літаратурным жыцці.

АДН.



# БЕЛЫ ТУМАН НА ПОПЛАВЕ

— Тата сказаў, што пад павеццю стаіць пустая клетка, трусы там сядзелі. А карміць буду травою.

Генка памог малому пачысціць клетку, туды ўціснулі зайчанё і зачынілі маленькія бляшаныя дзверцы.

На сваім гародзе бабка Наста выбірала агуркі. На разоры стаяла белае цынкавае вядро, а Наста, узяўшы ў адну руку канец фартуха, другою спрытна расхінала густую агурэчную націну і кідала ў прыпол важкія, пахучыя агуркі. На гародзе пахла ўкропам, кіяхамі і абвялай гарбузовай націнаю. Бліжэй да разоры някідка і неяк недарэчна на сконе лета цвіў мак-самасейка.

Генка прысеў на разоры на цвёрдую, халаднаватую ў зацішку зямлю. Ён глядзеў, як звычна шнырыла бабчына рука ў густой націне, як бабка ступае босымі нагамі на ледзь прыкметны свабодны лапік зямлі: і хоць бы аднае каліўца зачапіла. Генка паднёс бабцы вядро, і яна вываліла з прыполу цяжкія, як набраклыя, агуркі. Утомлена выпрасталася, апусціла фартух.

— Ідзі, унучак, малачка папі. Гладышок я паставіла ў цэбар з вадою. Халодненькае, самае да спору. А я тутака і сама спраўлюся: вядзерка адно якое толькі навыбіраю, каб не зжаўцелі.

Генку не хацелася піць, і ён адмовіўся.

— Ну, дык пасядзі тады, на свежасці яно здарова.

І Наста зноў борзда затупала паградзе.

— Чаго ета цябе клікаў Хедзік? То ўжэ, мусіць, год з дзесяць у еты бок не глядзіць, а тутака сам вуліцу перайшоў.— Наста на мінутку ўзняла галаву.

— Салому закінуць прасіў. Высока, сам не падыме,—адказаў Генка.—Ну, і памог.

— Як просіць чалавек, то падмагчы трэба. Які б ён ні быў...

Наста зноў зашастала націнаю, рупна і звычна рабіла сваю справу. Неўпрыкмет вядро стала поўным, і Генка занёс яго да ганку, высыпаў агуркі на посцілку, якую бабка загадзя разаслала. Прынёс парожняе, паставіў у разору і зноў прысеў. Яму падабалася вось так сядзець, чуць цеплаваты пах зямлі, гэтае ціхмянае шастанне, нетаропкую работу бабкі. Пынячы Генкавы думкі, у Хедзікавым двары ўсчалася сварка: глуха, як з-пад бочкі, бурчаў сам Хедзік, яму злосна, але стрымана, нібы чуючы шчэ нейкую бацькаву ўладу, адгукалася дачка.

— Нялацна яны жывуць. Век у іх там калатнеча. І што людзі не падзялілі, адзін бог ведае.

Наста распрамілася, услухалася.

— Ой, нехарошакі ён чалавек, Хедзік. Жыве, як ваўкалака. Шчэ ў васемнаццатым, як з вайны прыйшоў, парашыў чалавека: бач ты, мяжу не падзяліў. Ніхто не даказаў, баяліся. Так і сыйшло яму ета. Увесь век хапаў, усё яму мала было. Як калгасы пачалі ставіць, то Хедзік не блізка. Сваёй палоскі глядзеўся, ды каня. Абрэзалі яму соткі па вуглы, далі толькі лапеку на полі, ля лесу. Маня яго пасля вайны ўступіла ў калгас, бо смяяцца зачалі з яе.

Наста зноў высыпала агуркі з фартуха ў вядро, вольная, пачала аглядваць апошнія два рады. Выбіраючы, расказвала далей:

— Як немец стаў у нас, вядома ж, многа людзей праз вёску ішло: то з акружэння, то бежанцы. Хто ж іх ведае, адкуль яны ідуць. Прыйдуць, пакорміш, кавалака сала з хлебам дасі на дарогу. Жалка чалавека ўсялякага. Аднаечы двое нашых салдатаў ішло, маладзенькія. Ды відно, здалёку ідуць, бо абношаныя, змарнелыя. Вынес ім мой Ахрэм за гумно кулідку хлеба, гладышок сыраквашы ды яшчэ на дарогу таго-сяго. Гаворыць ім ухадзіце падальша ў лес, бо людзі ўсялякія ёсека, і гідкія, і завісныя. Угледзіць чужое вока і данясе немцу. А тыя даверлівыя, вядома ж, шчэ маладыя.

Адышліся да рэчкі, залезлі ў стог дай можа хацелі дзень перачакаць. А еты самы Хедзік угледзеў іх, ды як на тое ліха нямецкая легкавушка ехала. Супыніў ён яе, нешта ахвіцэру іхняму, нямецкаму, паказваў. Ахрэмка мой бачыў, быў бы жывы, зманіць не даў бы. Ах, бо-ожачка ты мой, якія людзі на свеце бываюць. Тая легкавушка і пакацілася па грэблі, па купінах, павалюхалася проста да стажка. А як гналі іх, бедных, прад машынай наўперад, усё подбегам, а ногі іхнія як падламваюцца... Куды ж пагналі, хто ж цяперака скажа, хто ж цяперака ўведае.

Наста ўздыхнула, успомніўшы так неспадзявана тое далёкае і жахлівае, што і сёння вярэдзіць душу, нібы было яно ўчора. І льга было б забыць, ды не, мусіць, сіл не стае выкінуць усё гэта з памяці.

Пад вечар да Насты зноў завітала Марыля. Села ў двары на прызбу і пачала выкладаць бабцы ўсе дзённыя вясковыя навіны.

— Мой Пётра і Хедзікаў зяць цэльны дзень учора на ентым канбайне брындаліся: бач ты, старшыня сказаў, што жыта абсыпаецца. А тута-

*З НОВЫХ ПЕРАКЛАДАЎ*

# ЮГАСЛАЎСКІ ВЯНОК

Чвэрць веку назад—29 лістапада 1945 года была ўтворана Федэратыўная Народная Рэспубліка Югаславія (цяпер — Сацыялістычная Федэратыўная Рэспубліка Югаславія). Перамога над гітлераўскімі акупантамі і разгром фашысцкай Германіі стварылі ўмовы для карэннага павароту ў гісторыі народаў Югаславіі—да ўступлення на шлях будаўніцтва сацыялізма. Дваццаць пяць гадоў сацыялістычнага развіцця краіны — гэта нялёгкі і няпросты шлях працы і барацьбы мільённых працоўных мас за ўмацаванне новага ладу, за сцвярджэнне сацыялістычных ідэалаў. У працы і барацьбе праходзіла і праходзіць станаўленне новай, рэвалюцыйнай літаратуры Югаславіі.

У гэтым невялікім паэтычным вянку, які прапануецца ўвазе чытачоў, прадстаўлены паэты ўсіх шасці рэспублік Югаслаўскай Федэрацыі. Паэзія братніх народаў Югаславіі—як класічная, так і сучасная — несумненна, заслугоўвае таго, каб нашы чытачы пазнаёміліся з ёй у больш шырокім аб'ёме. А пакуль што—гэты маленькі вянок — як прывітанне сябрам у дні іх вялікага нацыянальнага свята.

**Іво БАЛЕНТОВІЧ**

(Харватыя)

## ТОСТ

Вып'ем чаркі да дна за каханне, якое згасла,
і за тое каханне, якое не згасне ніколі.
За жанчыну, што ўдалеч сцяжынкай пайшла
між разгалістых яблынь.
І за тую жанчыну, якая не пойдзе.
Першая — адцвіла і завяла.
Другая — вясновымі сокамі ўся набрыняла.
А я — праходжу над рэчкай
пад ветразямі вербалозаў,
пад снежна-белымі хмаркамі.

Вып'ем чаркі да дна за смех, які адзвінеў,
і за смех, што не адзвініць ніколі.
На здароўе, сябры! На здароўе —
за красу, што празрыстымі снамі дні напаўняе.
За каханне, якое ўтаймоўвае нават ваўка
і схіляе героя ў паклоне
і ломіць бетон і жалеза.

Вып'ем чаркі да дна, о браты-падарожнікі!
А пасля застанецца адна нам прасветлая ўцеха —
што заўсёды дарогамі будуць блукаць летуценнікі і паэты
і што гэтак жа будуць зноў чаркі да дна выпівацца
і рукі сплятацца
і сэрцы ушчэнт разбівацца.
Вып'ем, наіўныя хлопцы, за маладосць, што застаецца
і за каханне, што не прыходзіць.

**Ізет САРАЙЛІЧ**

(Боснія і Герцагавіна)

## НОЧ—ТОЛЬКІ ВАМ

Ноч—толькі вам, што схіліліся над найсалодшымі вуснамі.
Вам—о Пяшчотныя, Ціхія, Светлыя ў век наш суровы!
Выкіньце з царства свайго ўсё агіднае, гнюснае,
І абвясціце Стагоддзе Любові!

Ноч—толькі вам, за якіх мітынгую бясстрашна.
Вам, што у сэрцы паэта адвеку і вечна жаданыя.
Дык не аддайце ж нікому яе—гэту ноч без штыкоў і без маршаў,
о Закаханыя!

Тут, пад адным для забойцы і для анёла небам,
ноч бараніце сваю, што вас лашчыць павевамі веснімі.
Ноч—толькі вам, для якіх і тужліва і гнеўна
трызнім мы гэтую песню над песнямі.

Ноч—толькі вам, што прыходзіце ў вершы без груку.
Вам, што ў паэмы прыносіце самае светлае крэда.
Выкіньце з царства свайго песняроў, што пяюць пра разлуку.
Калі трэба—й мяне. І мяне, калі трэба.

Ноч—толькі вам, за якіх мітынгую бясстрашна.
Вам, што у сэрцы паэта адвеку і вечна жаданыя.
Дык не аддайце ж нікому яе—гэту ноч без траншэй і без маршаў,
о Закаханыя!

**Цане АНДРЭЕЎСКІ**

(Македонія)

## ЧАРАЎНІЦА

Калі ты спаткаеш сляпога —
скажы яму: «Добры дзень!»
Як песню, ён будзе сабе паўтараць
два словы твае. І паверыць, што песня —
дар неба, якое з вачэй яго выцекла.

Калі аднарукага ты напаткаеш —
пацісні руку, што ўцалела, і трохі
даўжэй патрымай у сваёй. Ён паверыць,
што ў яго адрасла і другая рука.

Калі табе стрэнецца глуханямы —
няхай абагрэе яго твая ўсмешка,
азёры вачэй тваіх хай не сцямнеюць.
Ён паверыць, што ёсць для чаго яму жыць.

Калі ты мяне напаткаеш — не трэба
казаць: «Добры дзень!», ні руку пацiскаць,
ні азёры вачэй наліжаць да маіх,
бо ў нас ёсць песня высокага неба,
бо ў нас ёсць гімн жаўрукоў над полем,
бо мы можам абняць усіх добрых людзей.

Ты моўчкі за мною пайдзі — і толькі.

**Рáдаван ЗОГАВІЧ**

(Чарнагорыя)

## З ПАЭМЫ «ПРЫХАДНІ»

*ПЕСНЯ ШОСТАЯ*

Нашы белыя статкі павыбіваны, як зубы.
Травою пазарасталі сцежкі да горных палян.
Дні, як вандроўнікі, цягнуцца, смага іх душыць,
ды хоць бы хмурыначка—з мора або да мора.

Поўдзень. Духмень і спякота. Вісне самлелае голле.
Серкаю—востра—каменне нагрэтае пахне.
Вуліцай, што аж дыміцца ад сонца, ідуць тры авечкі —
кучкаю, нібы сляпыя, стуліўшы галовы разам.
Сям-там на бязлюдных падворках скуголяць аўчаркі,
лапамі дол разграбаюць і жаласна выюць,
выюць ад спёкі і ад тугі па гарах, па кашарах.

Дні, як вандроўнікі, цягнуцца цугам сасмяглым —
і хоць бы хмурыначка—з мора або да мора!..
Поўдзень. Духмень і спякота. А недзе грымяць патокі —
пеняцца, пырскаюць, росячы травы і піхты.
Льецца вада з латакоў у карыты сасновыя,
падае звонка, журчыць і плюскоча на ўсіх вадапоях.
І сосны гудуць, як віхуры зімой у цяснінах —
адвечнаю моваю гор першабытных гавораць.

Якая ж гара анямела! Штэдзім-гара анямела.
Не чутна сабак ля кашар, і стуку сякер не чутна,
ні песень, ні рыку быкоў у крутых паядынках.
На выпасах вымерлых дзікі быльнёг раскашуе,
трухлеюць загонаў платы і пустыя калыбы,
праз дошкі і жэрдкі гнілыя трава прарастае.

Нашы белыя статкі павыбіваны, як зубы.
Травы ўзбуялі на сольніках, дзе сыпалі соль для жывёлы.
І ў травах тых буйных, у росных высокіх травах
ваўчыцы саскі абмываюць і кормяць сваіх ваўчанят,
і кормяць сваіх ваўчанят —
на выпасах нашых, на горных палянах.

**Дэсанка МАКСІМОВІЧ**

(Сербія)

## ПРОСЬБА

Спагады разумнай прашу
для жанчын, якія не далі
ні богу богава, ні цару царова,
якія не калыхалі
дзіцяці ў калысцы;
для неблаславлёных,
для тых,
што носяць перад сабою
сноў і мрояў сваіх транспаранты,
у чыёй крыві толькі песня звініць,
чые сэрцы напоўнены водарам траў
і журчаннем крыніц,
у абдымках чыіх —
толькі белыя хмаркі,
для тых, што як птушкі
уюць над зямлёй свае гнёзды
і родзяць красу матылькоў-аднадзёнак.
Для ўсіх, каму не знаёма
утульнасць абжытага,
звыклага,
хто блукае дзесь, заварожаны,
убаку ад гасцінцаў бітых.
Добры божа, твайго злітавання прашу
для тых, хто ў пару маладосці
стаў падданым царства паэзіі,
хто вечна трымціць, як асіна ў лесе,
а месячнай ноччу —
гойдаецца, як на хвалях байдарка, —
для Яфіміі,
для святой Тэрэзы,
для кожнай Сапфо
і Жанны д'Арк,
для ўсіх, што не далі
ні богу богава, ні цару царова,
і для мяне таксама.

**Ежэ УДОВІЧ**

(Славенія)

## ЛЮСТЭРКА СНУ

Люстэрка сну
кідае ў ноч
свой промень.

Здзіўленая,
акунула яна
у месячную раку
свае доўгія косы,
і цяпер іх сушыць
у чужым садзе.
Ружы яе не пазнаюць,
ноч яе не пазнае,
прывід-вартаўнік
не пазнае таксама
і не адпускае,
пакуль не прызнаецца:
хто і адкуль.

Маўчыць яна.
не гаворыць,
што з сэрца майго
прыйшла.
Не хоча вяртацца!

Белая птушка
выцягвае
з яе тонкіх пальцаў
вострыя церні.
Пазбаўленая
пакут і тугі,
ніколі болей
яна не ўспомніць
пра шыпшыну
у маім сэрцы.

Пераклады з сербска-харвацкай, славенскай і македонскай Ніла ГІЛЕВІЧА.

ка шчэ іх зменшчыкі на Хадосьчыных хрысцінах упіліся, што мяхі пад плбтам ляжалі. Дак яны шчэ і ноч усю жалі без аддыху. Я ўжае думала, што і Пётра нахрысціціўся, ды і ў канаву дзе заваліўся спаць. А ён, бач ты, у героі выбіўся.

Марыля як бы асуджала свайго няўдаліцу-мужыка, але без злосці, а нават з нейкай пахвальбой, здзіўленая ад таго, што яе Пётра, які не міне ніводную чарку на сяле, здольны на такое. І нават яна, Марыля, не чакала.

І ўжо з лагоднасцю ў голасе, як даўнавата не гаварыла на людзях пра мужа:

— Спіць цяперака, як хрыстосік, малака толькі і папіў.

Дзень ападаў. Спачатку зашарэла пад вішняком, у палісадніку, нібы там, у зацішку, пакрысе збіралася начное войска, каб рынуць і адным махам зацямніць усё жывое. У вечаровай стоенай ціхмянасці трапятала лістота на макаўках вішань; яна выразна выступала на светлай палосцы небасхілу і нагадвала птушак, якія лянотна махалі крылцамі і не маглі ўзляцець, нібы прывязаныя за лапкі.

Па вуліцы з пашы ішлі каровы. Востра запахла пылам, які ўзняў статак, сырадоем. Марыля ўзнялася, абцягнула спадніцу і пайшла за сваёй скацінаю, каб упусціць яе ў двор. А Наста, умасціўшыся на нізкім услончыку, пачала даіць карову. Туга дзвынкнулі ў падойнік першыя струмені малака, а потым, як вядро поўнілася, яны глушэлі і глушэлі.

А з гарода, з вішанніка цягнула свежасцю. За соткамі, на поплаве, шырока і вольна напаўзаў на кусты, траву, рэчку белы туман.

«От, заўтра будзе рыбалка. Толькі трэ не праспаць»,—падумаў Генка.

Ён быў такім, як заўсёды. І крышку іншым. Як бы пасталеў за гэты дзень.

А на гародзе пахла расою.

# ГАЛОЎНАЕ — ЛЮБОЎ ДА ЛЮДЗЕЙ

*ДА 90-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Іярдана Еўкава*

У ЛІТАРАТУРЫ кожнага народа ёсць фігуры, якія, нібы вяршыні горнага хрыбта, вызначаюць яе вышыню. У Балгарыі адна з такіх вяршынь — Іярдан Еўкаў, пісьменнік своеасаблівага таленту і чалавек нялёгкага лёсу. Ён пакінуў пасля сябе некалькі раманаў і аповесцяў, шэраг драматургічных твораў, а ў жанры кароткага апавядання і навелы ён дасягнуў класічнай адточанасці мовы і стылю, дасканаласці формы і кампазіцыі.

«Побач з Вазавым і Элінам Пелінам, — гаварыў Томас Ман, — ён (Еўкаў. — У. А.) зрабіў выключна важны ўклад у развіццё балгарскай прозы, а сваімі наймоцнымі творамі падняў яе на недасягнутыя ні да яго, ні пасля яго вяршыні».

Беларускі чытач, на жаль, яшчэ мала ведае гэтага цікавага пісьменніка. Толькі адно яго апавяданне, праўда, адно з лепшых — «Белая ластаўка», — увайшло ў анталагічны зборнік «Скарб», выдадзены ў нас гады тры назад.

Як і ў гэтым апавяданні, героі многіх твораў Еўкава — простыя людзі, гаротныя сяляне. Пісьменнік малюе іх з вялікай сімпатыяй і нязменнай спагадай да іх турбот і клопатаў, раскрываючы ў душы селяніна невядомы да таго ў балгарскай літаратуры свет складаных і высакародных пачуццяў.

Яшчэ ў сваіх «Ваенных апавяданнях», якія былі напісаны ў перыяд балканскіх войн, Еўкаў па-свойму падыходзіў да, зрэшты, не новай у балгарскай літаратуры, сялянскай тэмы. Ужо тады галоўная ўвага пісьменніка была накіравана на раскрыццё духоўнага свету простага чалавека, селяніна, апранутага ў салдацкі шынель.

Сярод твораў Іярдана Еўкава асобнае месца займае цыкл апавяданняў «Старапланінскія легенды». У паказе людзей і іх адносін тут ёсць нешта велічнае і рамантычнае, дзе раскрываюцца векавыя традыцыі нацыянальнага жыцця нашых паўднёвых пабрацімаў — балгар. Героі «Старапланінскіх легенд» увасабляюць найадметныя рысы характару іх: маладыя і прыгожыя, яны разам з тым мужныя і суровыя, гатовыя на самаахвярныя ўчынкі, не ведаюць ніколі ваганняў у прыняцці рашэння, дзейнічаюць хутка і рашуча.

Ва ўсіх сваіх творах Іярдан Еўкаў сцвярджаў прыгажосць жыцця, паэзію працы, паказваў ва ўсёй красе чалавека. Гімнам чалавеку і справам яго рук гучыць апавяданне «Песні калёсаў». Галоўны герой гэтага твора майстар Салі Яшар умеў рабіць цудоўныя калёсы, якія на хаду спявалі, ігралі і тым самым прыносілі людзям радасць. Але не толькі вялікі майстар стары Яшар, ён вельмі чулы, спагадлівы чалавек. «Пакутамі і горам напоўнены гэты свет, — думае ён, — але ўсё ж ёсць у ім і нешта цудоўнае, што стаіць над усім, — гэта любоў да людзей».

Хочацца спадзявацца, што лепшыя творы Іярдана Еўкава ўбачаць свет на беларускай мове.

У. АНІСКОВІЧ.

